PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 17 (2137) Год XLII Беласток 27 красавіка 1997 г. Цана 1 зл.

# Палячу думкамі на Беласточчыну

**Пасха Господня, Вялікдзень. У Святую Поўнач з 26 на 27 красавіка, маліўшыся ў маім цудоўна прыгожым лодзінскім Свята-Аляксандра-Неўскім саборы, я палячу думкамі да маіх Дарагіх Бацькоў, Суродзічаў, да ўсіх Вас, Дарагія Працаўнікі „Нівы”, да Вас усіх жывучых на Беласточчыне. І памалюся, і пашлю Вам усім думкі мае найлепшыя і пажаданні.**

**Інтэрв'ю з Яго Высокапраасвяшчэнствам архіепіскапам Лодзінска-Познаньскім СІМАНАМ.**



***— Ваша Высокапраасвяшчэнства, Вы родам з Беласточчыны. Жывяце, аднак, у цэнтры Польшчы. Якой цяпер, з перспектывы Лодзі, явіцца вам родная ваколіца?***

— Такой, якой заўсёды была — мілай, дарагой, непаўторнай. Такой, да якой заўсёды рвалася маё сэрца і да якой я вяртаўся ў 1968 годзе з мілага майму сэрцу Парыжа (у час чэхаславацкай інтэрвенцыі), калі мае сябры парыжане крычалі, што толькі з маім звар'яцелым рамантычным славянскім сэрцам можна рвацца ў такую няпэўную даль, а варшаўскія — шалёным мяне называлі, бо які, казалі, нармальны чалавек сюды вяртаецца, калі яму ў Парыжы менавіта даюць навуковую стыпендыю?!... А я вярнуўся (шалёны — не шалёны, называйце, як хочаце), бо як мне было там жыць без усяго майго, што СВАІМ завецца, без цудоўных маіх Бацькоў, суродзічаў, сяброў, без мае Белавежскай пушчы, дзе я заўсёды ведаў як кожнае дрэва шуміць... А цяпер — я ўжо 15 год у Лодзі, дзе таксама лес ёсць; для ладзян — ён вялікі, для мяне — гэта корчыкі... А мая родная ваколіца, мая Нараўка, мая Гушчэвіна, што пад Пушчай стаіць? Асфальт усюды, водаправод, аўтобус, электрычнасць, а я там, пасля вайны, пры маім басаногім дзяцінстве пры лучыне кніжкі чытаць пачынаў... Усё змянілася, выподнілася, і Пушча стаіць, як пасля тарнада, дзе ўсё з карэннямі вырвала і панясло, вырубалі там амаль усё. Няма цяпер там ні даўнейшых ягад, грыбоў, ні рыбы ў маёй Нараўцы... Але там жывуць мае Бацькі-Старавінкі, Найдаражэйшыя мне на свеце Людзі! Там стаіць наша, першая ў вёсцы пасля ваеннага вывазу і разарэння пабудавана маленькая хатынка — маё сэрца! Як жа туды не ехаць, не вяртацца, не ляцець душой, сэрцам, целам, дзе б ты не быў, у Лодзі, у Еўропе, за акіянам!..

***— Ці ёсць розніца ў становішчы Праваслаўнай Царквы на Беласточчыне і ў Вашай епархіі?***

— Мая епархія — самая вялікая па тэрыторыі ў нашай Царкве; гэта ўся цэнтральная Польшча, ад паўднёвых гор з Закапаным па рэчку Нотэць з Быдгашчу і Грудзёндзам на поўначы, ад цячэння Віслы ўсё налева па Каліш і Познань на захадзе. Але гэта дыяспара, прыходы тут толькі ў вялікіх гарадах, не ў вёсках, у адлегласці 50-100 км адзін ад другога. Гэта Лодзь, Пётркуў, Чанстахова, Сасновец, Кракаў, Кельцы, Радам, Каліш, Познань, Влацлавак, Торунь, Быдгашч, Аляксандраў-Куяўскі, Грудзёндз (у Цехацінку ёсць таксама ваенная царква ў ведамстве Высокапраасвяшчэннейшага Уладыкі Архіепіскапа Генерала Савы). Прыходы з цудоўнымі цэрквамі і маленькімі хатнімі каплічкамі, там, дзе калісь стаялі цэрквы- прыгажуні, у міжваенны час узарваныя дынамітам або замененыя на касцёлы. Вернікі — шчыра кахаючыя сваю Веру і Царкву, вельмі ахвярныя і дапаможлівыя, нямногалікія: гэта беларусы, украінцы, рускія, палякі, лэмкі, балгары, сербы, грузіны, грэкі, арабы, эфіопы; вавілонская моўная вежа, трэба гаварыць на розных мовах, адсюль і спецыфіка душпастырскай маёй дзейнасці. Я прывык, я пакахаў, і пакідаць іх не збіраюся... Суадносіны з іншымі? Часта-густа тут трэба быць героем, каб прызнацца да свайго Праваслаўя. На жаль, цяжэй з гэтым стала пасля 1989 года ў цяперашняй нашай хрысціянскай Дзяржаве. Пагоршыліся, не з праваслаўных віны, нашы суадносіны і з Каталіцкай Царквою і з дзяржаўнай адміністрацыяй.

***— Калі Вы наведваеце Беласточчыну, падчас царкоўных святаў кажаце пропаведзі пабеларуску. Што Вы думаеце пра выкарыстоўванне нацыянальных моў у Царкве?***

— На жаль, не ўсе хрысціяне помняць словы Св. Апостала Паўла, што пасля Уваскрэсення Хрыстова няма ўжо ні грэка, ні іудзея, а мы ўсе Хрыстовы, што нацыянальныя рамкі ў хрысціянстве распаліся і ўсе мы цяпер Дзеці Божыя. Царква не дзяржаўная, не палітычная ўстанова, яна не мае граніц, войска, ружжа, яе мова — мова сэрца, веры, надзеі, любові, усёпрабачэння, таму нацыянальная мова кожнага народа не залог збавення. Бо што з яе, нацыянальнай, калі яна нясе нянавісць і непашану другіх моваў, іншых людзей? Кожная мова можа ўжывацца ў Царкве, Гасподзь Бог усе іх разумее. Ёсць, аднак, святая гісторыя і абычаі. Калі б не царкоўнаславянская мова і Царква Праваслаўная, не было б сёння ні Балгарыі, ні Сербіі пасля 500-гадовага турэцкага гнёту на Балканах. Не было б ужо даўно і нас, праваслаўных, на Польскай Зямлі. Іншая справа цяпер з Праваслаўем у Афрыцы, Амерыцы, Японіі, Кітаі, дзе славянскасць — гэта толькі традыцыі і ўспаміны эмігрантаў. У славян літургічным стрыжнем павінна быць царкоўнаславянская мова; бо што рабіць у маёй Лодзі, дзе больш дзесяці нацыянальнасцей? А пропаведзь, размовы з вернікамі павінны быць на іх роднай мове, гэта безумоўна, або на традыцыйнай мове данага прыхода. У Лодзі, ды і па епархіі, я прапаведую на 4-5 мовах, на Пасху — і больш нават (не хвалюся, тут такая патрэбнасць, але ж не ўсе родзяцца такімі „языкастымі”!). Пэўна, чуем часамі, асабліва сярод палякаў, „не разумеем усяго”. Я тады пытаю: а што ты зрабіў, каб зразумець Службу, Царкву, Бога? Ты ж не гуска, якую кормяць на зарэз, у рот корм пхаючы, ты ж чалавек, зрабі хоць крок да Царквы, да Бога, да бліжняга свайго! Праваслаўе — не камфорт, не салодкі торт, не мяккі тапчан з пуховай падушкай. Гэта і спаведніцтва, гэта часта ўсё яшчэ ганенне і мука, гэта насмешкі „праўдзівых хрысціян”, якія нас называюць „кацэчай верай”, бо мова ў нас іншая і абычаі другія. Тут і абароніць нас царкоўнаславянская мова і наша родная, бацькоўская. Гэта скарбы нашы адвечныя — згубім іх, адрачэмся ад іх і перастанем быць і праваслаўнымі, і беларусамі.

***— Працавалі Вы калісь настаўнікам, займаліся літаратурнай творчасцю. Георгій Валкавыцкі ў кніжцы „Віры” ўспа-***

[*працяг* ☞ **10**]

Спакойнага і радаснага Вялікоднага святкавання ўсім чытачам жадае рэдакцыя „Нівы”



Кампазіцыя і фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Мы прачыталі

*Co Polacy kradną? W Polsce ginie wszystko. Nawet święcona woda z kościelnych kropielnic. Z grobów kwiaty, wieńce i krzewy, cynowe figurki Chrystusa. Z wojska — mundury, buty, pasy, płaszcze. Z budów wszystko. Ze szpitali — także wszystko. Koło Żmigrodu próbowano ukraść most. W Piotrkowskim rozkradana jest połowa energii, która trafia do odbiorców indywidualnych. Lasy kradną rolnicy i zorganizowane gangi. Bywa, że dobrze zorganizowany gang w ciągu nocy wycina w pień cały las. Na PKP giną tony węgla, benzyny, spirytusu. W Polsce ginie prawie wszystko. Ani kapitalizm, ani normy religijne nie ograniczyły naszych złodziejskich skłonności.*

*Polityka, nr 14*

* * *

*Беларусь не павінна застацца без беларусаў!* — мяркуе

*Наша слова, н-р 10*

Гучыць як чорны гумар.

* * *

*Пасля размовы ў міліцыі былы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Генадзь Карпенка апынуўся ў рэанімацыі.*

*Свабода, н-р 33*

Непатрэбна паверыў у тое, што савецкі міліцыянер можа ведаць беларускую мову.

* * *

*Лукашэнка, задраўшыся з США як жаба з буслам, дайшоў да такога абсурду, што прылюдна заявіў, быццам бы беларускі народ хоча дыктатуры і павароту да сталінскіх часоў...*

*Беларускі Дайджэст, н-р 4*

* * *

*Polscy przestępcy są dużo groźniejsi niż ci zza wschodniej granicy. Legendy o tym, że stamtąd pochodzi większość płatnych morderców czy bezwzględnych rzezimieszków można włożyć między bajki. Wprawdzie niektóre z popełnionych przez nich przestępstw są wyjątkowo brutalne, ale wcale nie bardziej niż te, których dopuszczają się rodzimi bandyci.*

*Kurier Poranny, nr 84*

* * *

*Nie chcę żyć w kraju kłamstwa, głupoty i paranoi. Kompletnej bezmyślności i bezkarności. Nic z tego kraju nie będzie. Morderstwa na ulicach, afery, przekręty — im wyżej w hierarchii władzy, tym większe,* — сказаў кампазітар Збігнеў Прэйснэр і выехаў з Польшчы.

*Gazeta Wyborcza, nr 84*

* * *

*Народы стаміліся жыць у разарваным, напоўненым мытнямі і граніцамі свеце,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, выступаючы ў ролі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*Звязда, н-р 53*

* * *

*Калі песня жыве беларуса — будзе жыць беларускі народ.*

*Голас Радзімы, н-р 13*

Спявайма тады: „Широка страна моя родная...".

* * *

*Przed wojną to byli prawdziwi Polacy* — *stwierdził dyrektor Radia Maryja o. Rydzyk. A teraz są Polacy, tubylcy, polskojęzyczni, najemnicy i zdrajcy.*

*Gazeta Wyborcza, nr 72*

* * *

*Rosyjski biznes, który już podzielił między sobą rynek ojczysty, jest zainteresowany przejęciem gospodarki białoruskiej. Jego część związana z energetyką i rynkiem paliw zresztą już została przez Rosjan przejęta. Przez Białoruś trafia do Rosji ogromny przemyt. Po zjednoczeniu znajdzie się on pod kontrolą Moskwy.*

*Życie, nr 78*

* * *

*Prezydent Łukaszenka ma wiele powodów do zmartwień — opozycja kwestionuje jego poczytalność, zagranica nie kwapi się z poparciem i sympatią. Ale największym problemem jest gospodarka. W 1990 r. Białoruś miała najwyższy dochód narodowy na jednego mieszkańca spośród republik Związku Radzieckiego. W ciągu kolejnych lat zmiejszył się on o 40 proc. Jak dotychczas udział gospodarki prywatnej w tworzeniu produktu krajowego nie przekracza 15 proc. Jest zatem najniższy wśród wszystkich państw postkomunistycznych. Mniejszy udział ma tylko Kuba i oczywiście Korea Północna. Prawie cała prywatyzacja została zatrzymana przez Łukaszenkę.*

*Polityka, nr 15*

* * *

*У апошні час усё больш беларускіх дзяўчат аддаюць „руку і сэрца" грамадзянам з замежжа. Найбольш ідзе замуж за грамадзян Германіі і Ізраіля. У пашане і хлопцы з краін арабскага свету. Амаль усе пары ў хуткім часе пасля заключэння шлюбу пакідаюць межы рэспублікі. Іншаземцы забіраюць з Беларусі самых прывабных, сур'ёзных і адукаваных дзяўчат, найлепшых прадстаўніц нашай нацыі.*

*Голас Радзімы, н-р 14*

Прыгожыя маюць шанц вырвацца з лукашэнкаўскага раю. Іншым астаецца толькі прымаць удзел у чарговых рэферэндумах.

# З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі** падчас сустрэчы з папам **Янам Паўлам II** пацвердзіў свае абавязацельства дабіцца ратыфікацыі канкардату — дагавору, які рэгулюе адносіны паміж Польшчай і Ватыканам, — заявіў афіцыйны прадстаўнік Ватыкана **Хаакін Навара Вальс**. На прэс-канферэнцыі па выніках сустрэчы А. Кваснеўскі адзначыў, што польскі бок падрыхтаваў і ўзгадніў з Ватыканам тэкст дакумента, у якім становяцца больш зразумелыя некаторыя крытычныя палажэнні канкардату.

**У Сараеве**, на заканчэнне свайго візіту ў Босніі і Герцагавіне, папа рымскі **Ян Павел II** сустрэўся з прадстаўнікамі іншых веравызнанняў. Падчас сустрэчы з першаіерархам Сербскай праваслаўнай царквы мітрапалітам **Мікалаем** папа заклікаў да сапраўднага прымірэння паміж праваслаўнымі і каталікамі.

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка** падчас прамога тэлеэфіру заявіў, што распараджаецца дакументамі, якія пацвярджаюць існаванне ў Польшчы арганізаванага лідэрам БНФ **Зянонам Пазняком** цэнтра. На пытанне карэспандэнта Польскага радыё **Уладзіміра Паца** ці такія выказванні не пашкодзяць польска-беларускім адносінам, прэзідэнт Лукашэнка адказаў: „А ці вы не думаеце, што нашы ўзаемаадносіны маглі папсаваць выказванні прэзідэнта Польшчы напярэдні перад нашым рэферэндумам? І гэта не толькі ў сябе дома, але і падчас саміту ў Лісабоне. Гэта была самая крайняя рэакцыя на рэферэндум, якое адбылося ў нашай краіне, і то тады, калі ніхто яго аб гэтым не прасіў".

**Падпалкоўнік Эўгеніюш Млечак** — прэс-сакратар Міністэрства нацыянальнай абароны абверг распаўсюджваныя ў Беларусі чуткі, што быццам былі ля польска-беларускай граніцы размешчаны чужое вайсковае абсталяванне і такія ж самалёты. Нядаўна прэзідэнт Беларусі гаварыў пра набліжэнне да беларускай граніцы з боку Польшчы ваенных структур НАТО.

**Еўрапейскі парламент** папярэдзіў, што можа блакіраваць планаваную дамову аб гандлі і дапамозе для Беларусі, калі ўрад у Менску не пачне праводзіць сапраўдных палітычных і гаспадарчых рэформ. Пагадненне паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю „будзе падпісана толькі тады, калі ўрад Беларусі пачне дзеянні ў напрамку дэмакратычных, прававых і гаспадарчых рэформ", — напісана ў заяве Еўрапарламента. Гэтае еўрапейскае прадстаўніцтва выказала шкадаванне з прычыны „дыктатарскага стылю кіравання" прэзідэнта Лукашэнкі, які ставіць пад сумненне кшталт будучых адносін паміж былой савецкай рэспублікай і Еўрасаюзам, а таксама яе магутнай суседкай — Расеяй.

**Рыцары Вялікага княства** — так называлася мастацкая акцыя, якая адбылася 12 красавіка г.г. у Коле Падковы (каля Падковы-Лесьнай). У мерапрыемстве ўдзельнічалі мастакі, пісьменнікі і музыканты з Беларусі: Юры Якавенка, Уладзімір Панцялееў, Віктар Саўчанка, Юры Гумнюк, Вітаўт Чаропка, Вікторыя Назарэнка, Юры Джумшыташвілі, Станіслаў Лукашэвіч, Ігар Стопа, Вячаслаў Добін і Сяргей Фінскі.

**На Белавежскай паляне** будзе аднаўлена трохкіламетровае старое рэчышча Нараўкі, — такое рашэнне прыняў XIII З'езд Паўночнападляшскага таварыства аховы птушак, які адбыўся ў Белавежы. У выніку рэнатуралізацыі рэчышча далей будуць вернуты знішчаныя меліярацыяй колішнія прыродныя і турыстычныя якасці.



# Весткі з Беларусі

**ЗША перад Кітаем**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на адной з прэс-канферэнцый нагадаў прыярытэты ў знешняй палітыцы Беларусі, вызначаныя ў такім парадку: спачатку Расея, затым краіны-суседзі, на трэцяй пазіцыі — дзяржавы Захаду, а таксама ЗША і Кітай.

**Вынікі антыінтэграцыйнай дэманстрацыі**

Упраўленне ўнутраных спраў Менскага гарадскога выканаўчага камітэта паведаміла, што для разгляду дзеянняў грамадзян, затрыманых 2 красавіка падчас пікетавання будынка Расейскага пасольства, у суды горада было накіравана 76 адміністрацыйных матэрыялаў. У выніку 21 чалавек арыштаваны, 16 — папярэджаны, адміністрацыйнаму арышту падвергліся 26 чалавек, перанесены разгляд спраў 11 грамадзян і 2 справы не разглежданы па стане здароўя падсудных.

**У памяць Драздовіча**

У Доме літаратара адбылася вечарына „Вечны вандроўнік — па слядах пленэра", прысвечаная Язэпу Драздовічу. У праграме была выстава ўдзельнікаў пленэра, выступленне мастакоў, пісьменнікаў, навукоўцаў. У мастацкай частцы ўдзельнічала скрыпачка Наталля Семашкевіч, спевакі Ніна Кавалёва і Алег Атаманаў. Вершы Язэпа Драздовіча чытаў артыст Вячаслаў Галуза.

**Памочнікі хлебаробаў**

Як у былыя гады над палеткамі акцыянернага таварыства аграпрамысловага аб'яднання „Рассвет" Кіраўскага раёна кружаць добрыя памочнікі хлебаробаў — самалёты. Іх у „Рассвеце" тры. Адзін выдзелены спецыяльна для кантролю за ляснымі масівамі паўночна-заходняй часткі Магілёўскай вобласці, а два іншыя прызначаны для падкормкі палёў мінеральнымі тукамі і барацьбы са шкоднікамі. Рассветаўская авіятары ў лётнае надвор'е апрацоўваюць да трохсот гектараў у дзень.

**Аўтамабілі на чыгунцы**

Незвычайны цягнік з Польшчы перасёк беларускую дзяржаўную граніцу і ўзяў курс з Брэста на станцыю Кунцава-2 маскоўскай чыгункі. На трыццаці платформах са зніжанай пляцоўкай размешчаны вялікагрузныя аўтамабілі, якія накіроўваліся ў Расею з заходніх краін. Калі гэты эксперымент пройдзе паспяхова, неўзабаве дастаўка аўтамабіляў чыгункай цераз Беларусь стане рэгулярнай, што дазволіць скараціць шматкіламетровыя аўтамабільныя чэргі з польскага боку каля грузавога пагранпераходу Казловічы.

**Больш мяса і матацыклаў**

На прылаўках магазінаў Беларусі з'явіцца значна больш якаснай прадукцыі айчыннай вытворчасці. У Міністэрстве гандлю завершана фарміраванне рэсурсаў тавараў на гэты год. У першым квартале сёлета ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года на холадакамбінаты сталіцы адпраўлена ў 2 разы больш мяса, у 2,2 раза павялічыліся пастаўкі масла і ў 2 разы сыру. Што датычыць групы прамысловых тавараў, то і тут назіраецца рост. За кошт павелічэння аб'ёмаў вытворчасці сёлета гандаль атрымае ад беларускіх прадпрыемстваў у 1,5 раза больш гадзіннікаў і электрапрасаў, у 2,5 раза матацыклаў і шклянога посуду.

**Гродзенскі бізнес**

Праграму падтрымкі малога і сярэдняга бізнесу прынялі гарадскія ўлады Гродна. Яе мэта — стварэнне спрыяльных сацыяльна-прававых і іншых умоў для развіцця прадпрымальніцтва. Праграма прадугледжвае стварэнне спецыяльных інвестыцыйных фондаў, падрыхтоўку кадраў для камерцыйных структур, арганізацыю выстаў і конкурсаў для прапаганды новых відаў прадукцыі і паслуг.

**Праверка банкетаў**

Інцыдэнт ад 2 красавіка ў Барысаве, калі амаль усё вышэйшае кіраўніцтва горада было выкрыта ў калектыўнай п'янцы, стаў прычынай адпаведных рашэнняў на рэспубліканскім узроўні. Па даручэнні прэзідэнта Беларусі Камітэт дзяржаўнага кантролю пачаў праверку ўсіх леташніх банкетаў, якія праводзіліся за дзяржаўны кошт. У выпадку выкрыцця незаконнага выкарыстання дзяржаўных сродкаў, вінаватыя будуць пакараны.

# Любоў да роднага

Наведаў я нядаўна нашых чытачоў з Баброўнікаў — сям'ю Цацэркаў. Гаспадары, Сафія і Міхал, ветліва запрашаюць дадому. Усярэдзіне ўражае мяне парадак, чысціня і нейкі незвычайны подых свежасці, якія бянтэжаць мяне і я не хачу праходзіць далей, каб не парушыць гэтай святочнасці. Ні смяцінкі, ні пылінкі ў хаце, а саматканыя палавікі — быццам толькі што з кроснаў зняты і проста на падлогу... Гаспадары праяўляюць аднак рашучасць і я мушу ўшанаваць звычаі іх дома. Вокамгненна паяўляюцца на стале цёпленькая рыба і посны суп з капусты з малаком — быў я там у сераду, пасярэдзіне Вялікага посту — ды яшчэ гарачы чай.

— Такі суп вельмі часта мая мама варыла, — кажа спадарыня Сафія. — Ды і ў прынцыпе, калі нехта да нас у хату прыходзіў, мама абавязкова нечым госця частавала. І я таксама стараюся трымацца гэтай сямейнай традыцыі.

Мой візіт у хату Цацэркаў — другі ўжо. Калі пасля першага вярнуўся я дадому, прыпомнілася мне, што даўно ўжо, або ў „Ніве", або ў „Беларускім календары", быў калісь здымак Сафіі Цацэрка, лаўрэаткі конкурсу беларускай песні. Вось распытаць пра спевы ў даўніну і прыехаў я сюды другі раз.

— З чаго ўсё пачалося? — пытаю.

— У 1955 г. закончыла я Тэкстыльны тэхнікум у Лодзі. Працу атрымала спачатку ў Замбраве. Але вельмі ж хацелася ў Беластоку быць, і я, разам з шасцю другімі беларускімі дзяўчатамі, неўзабаве пераехала ў Беласток, стала на працу ў „Фастах" і атрымала месца ў інтэрнаце на Кракаўскай. У красавіку 1956 г. прыйшоў да нас адзін хлопец і кажа, што арганізуецца беларускі *зэспул*; было гэта яшчэ каля станцыі, не на Варшаўскай. Ну і я адразу пайшла спяваць. Тады ў БГКТ прафесар Зюлкоўская працавала. У 1958 годзе, у лістападзе мы, вось, пажаніліся, у інтэрнаце ўжо не было як мне заставацца і ў студзені 1959 г. вярнуліся мы на вёску. Яшчэ ў 1959 г. мяне ў „Śląsk" запрашалі, але я не паехала, хацела спяваць толькі па-свойму. Пасля пачалі ўжо ў Беластоку маладым пакойчыкі даваць, але нам не было ўжо як вяртацца — трэба было дзяцей гадаваць. Цяжка было, сталі зямлю абрабляць, ён на работу ў Беласток 12 гадоў даяздждаў. Зімой, а былі зімы яшчэ „лепшыя" чым мінулагодняя, на станцыю ў Зубкі канём вазіла, а назад то ўжо пяшком тэпаў. І дзеці малыя, і наварыш, і ўспееш яшчэ ў школу на рэпетыцыю драмгуртка збегаць, і спяваць — і хапала часу. У нас тут у Баброўніках настаўніца была, Марыя Кузьміч, яна драмгурток вяла, помню — „Прымакоў" ставілі. Калісь, як школа была, прыязджала „Лявоніха" і другія калектывы беларускія, людзі збягаліся, і маладыя прыходзілі, і цікавіліся ўсе гэтым. І цяпер, калі гаворыш з людзьмі, з мілай ахвотай хадзілі б.

Мяне ўвесь час запрашалі спяваць і надалей запрашаюць. І ад 1959 да 1978 года я спявала і ў раённых, і ў павятовых, і ў цэнтральных конкурсах беларускай песні і заваёўвала галоўныя ўзнагароды ў катэгорыі фальклорнай песні. Спявала ў Гарадку і Беластоку, без акампанементу. Раз у дуэце з мужам другое месца занялі. Помню, на Варшаўскай гэта было, спяваю я са сваім Мішкам „Ой Нёман, ой бацька мой Нёман", а ён нейкі чырвоны такі стаў. Спяваем, а ён не стрымоўвае, і мяне ў бок: „Не так спяваеш! Не па чарзе строфкі".

Калі цяпер уключаю радыё і спяваю, то мяне за душу так цісне, што не дам рады... Яшчэ слухаеш свае. Яшчэ шчаслівы той, хто мае блізка і туды зойдзе, паглядзіць. Не скажу, мяне не адкідалі, прысылалі запрашэнні з Гарадка, — за дарогу вернем — гаварылі, але хварэць стала... Ды і даязджаць нязручна — рэпетыцыі ж вечарамі адбываюцца, і пасля не было б чым дадому вярнуцца, апошні аўтобус каля пятай ад'язджае. А заехаць толькі на пачатак і назад, паказацца толькі — няма сэнсу. Але помняць пра мяне яшчэ і ў Беластоку, вось у мінулым годзе запрашэнне на юбілей Таварыства прыслалі. Так хацелася туды паехаць, але пісьманосец тое запрашэнне прынёс дзень пасля сустрэчы... Але добра, што радыё ёсць, што ў радыё яшчэ свайго можна паслухаць.

Спяваю ў царкве на кліраce. Прыход наш у Мастаўлянах, 7 кіламетраў у адзін бок, разам 14 км — на сваіх двaіх або на роварчыку.

У доме Цацэркаў бывала многа людзей. Быў Барскі са сваімі студэнтамі, бываў Міхась Хмялеўскі, Шаховіч; гаспадары распытваюць пра цяперашнюю іх долю. І пра Сцяпана Копу...

— Копа вельмі цікавіўся старымі песнямі, — кажа спадарыня Сафія. — Бывала, просіць, каб нешта даўняе яму праспяваць, і тут жа стараецца на акардэоне гэта зайграць, запісаць словы і ноты.

Дом Цацэркаў — як жа тыповы для Усходняй Беласточчыны; асталося ў ім толькі двое гаспадароў. Адна дачка ў Беластоку, другая ў Холме — працуе ў Таможнай управе. Яе візітная картачка — перакладчык расейскай, украінскай і беларускай моў. Здзівіліся там, адкуль яна ведае беларускую мову. „Яна — мая родная", — адказала яна.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*



*Сафія і Міхал Цацэркі.*

# Лавіць кантрабандыстаў!

Пры камуне чыгунка з'яўлялася асноўнай крыніцай даходу для жыхароў Чаромхаўскай гміны. Пасля яе заняпаду работнікі гэтай установы папоўнілі рады беспрацоўных. На чаромхаўскай станцыі, так як у іншых прыгранічных раёнах, людзі заняліся гандлем. Хто праз дарожны пагранічны пункт у Палаўцах, хто на цягніку праз Высокае, ехалі людзі за мяжу за таварам, а пасля прадавалі яго хто дзе мог, каб толькі зарабіць грошы на ўтрыманне сям'і.

Паколькі дзяржаўныя законы абмяжоўвалі колькасць везеных алкагольных напіткаў і папяросаў, а мытнікі канфіскавалі большую колькасць такога тавару, людзі пачалі займацца кантрабандай.

Чаго толькі тут не прыдумвавася? Аднак і мытнікі не дурныя. Адкрывалі што раз то новыя тайнікі з таварам.

Каму прыходзілася быць на пероне ў Чаромсе ў час кантролю цягніка Брэст—Беласток увечары, той бачыў, колькі адабранага тавару выносяць мытнікі на свой склад. Аднак яны не маюць магчымасці скрупулёзна праверыць усіх падарожных на працягу аднай гадзіны. Многім удавалася перавезці кантрабанду. Тычылася гэта і польскіх, і беларускіх псеўдатурыстаў. Гандаль гарэлкай у прыгранічным раёне і навакольных вёсках не спыняўся. Тады паліцыя ўвяла блакаду дарог.

Пасля прыезду цягніка з Брэста ў Чаромху, кожны хто ехаў дарогай з напрамку чыгуначнай станцыі, быў кантраляваны паліцыяй, а канкрэтна кажучы, правяраўся яго багаж. Зараз гэтая працэдура сталася кашмарам для жыхароў Чаромхаўскай гміны. Паліцыя затрымоўвае кожнага чалавека, які паявіцца на дарозе пасля васьмі вечара. Не пытаецца адкуль едзеш ці куды, не патрабуе дакументаў, не называе прычын затрымання, толькі патрабуе адкрыць сумку і правярае, што там знаходзіцца. Дзіўнымі мне здаюцца быць такія паводзіны старажаў грамадскага парадку. Дзе іхняя ветлівасць і культура? Няўжо ж ёсць закон, які дазваляў бы лічыць кожнага грамадзяніна злодзеем ці кантрабандыстам і без дай прычыны рабіць асабісты кантроль на дарозе? Ці чалавек, які купіў за свае грошы ў краме дзве-тры бутэлькі гарэлкі, гэта кантрабандыст? Чаму мытнікі не патрабуюць плаціць пошліну за лішнюю колькасць тавару, а ўсё ім прад'ўленае лічаць кантрабандай? На маю думку больш патрэбная прафілактыка. Не пра ўсіх людзей аднолькава трэба меркаваць. Іншы падыход трэба мець да таго, які едзе ўпершыню і вязе дзве бутэлькі гарэлкі, а іншы да таго, які штодзень або тры-чатыры разы ў тыдні едзе і вязе такую ж колькасць. Пагранічныя чыноўнікі (вайскоўцы і мытнікі) дасканала ведаюць кожнага „турыста", які выязджае за граніцу. Ведаюць таксама, чым кожны займаецца. Ды не ўсіх належна ацэньваюць.

Але не нам тут быць суддзямі! Такім ўжо стаў свет! І мы яго не зменім.

**К. Млынарскі**

# *Нікому не быць вінаватым*

*Даезды на працу з Бельска ў Беласток і мучаць, і каштуюць. Але маюць таксама свае станоўчыя бакі. Калі я яшчэ ездзіў аўтобусам, паявіліся ў мяне дзве гадзіны на тое, каб чытаць. Дзякуючы гэтаму адолеў я не адзін тоўсты раман, за якія ў іншых абставінах баяўся б нават брацца.*

*Сваё аўто не дазваляе на такі камфорт (хіба, што слухаць літаратуру, запісаную на касету), але дае іншыя выгоды. Я, асабіста, вельмі люблю сядзець за рулём і такая гадзінная язда гэта цудрэнны адпачынак. Часта здараюцца таксама цікавыя пасажыры, а займальная гутарка выдатна скарачае дарогу.*

*Пасажыраў, наогул, бяру я ахвотна. Хаця б з-за пачуцця пэўнага даўгу, бо самому некалькі гадоў таму давялося аўтастопам пераехаць палову Еўропы. Тады яшчэ была каласальная розніца між падарожніцтвам такім спосабам у Польшчы і за мяжою, скажам, у Нямеччыне, Аўстрыі, Венгрыі. З зайздрасцю глядзеў я на маіх аднагодкаў адтуль, якія чужыя машыны лічылі нармальным сродкам свайго перамяшчэння. Але найважнейшае, што так сама думалі ўладальнікі аўтамашын, бо ахвотна забіралі маладых падарожнікаў са з'ездаў на аўтастрады, заправачных станцый ці выездаў з гарадоў. У нас жа спыняліся амаль выключна шафёры дзяржаўных грузавікоў (іншых, дарэчы, у сацыялізме было мала), каб такім чынам зарабіць „на цыгарэты". Шчаслівыя ўладальнікі легкавушак краёвай ці савецкай вытворчасці не жадалі, каб хто-небудзь пэцкаў усярэдзіне іх цэнную маёмасць. Калі ўжо здарылася пад'ехаць такім цудам, дык чалавек мімаходзь мацаў рукою па пустой кішэні і выходзіў, не заплаціўшы, з адчуваннем вінаватасці.*

*Цяпер я заўважаю, што адбыліся вялікія змены. Не толькі таму, што я з прасіцеля ператварыўся ў таго, хто сам можа падвозіць, а разам з тым змяніўся мой пункт гледжання. У некалькі разоў пабольшала ў нас прыватных машын. Уласнікі перасталі глядзець на іх як на найдаражэйшы скарб, як на найважнейшы здабытак цэлага жыцця, а проста як на адзін з многіх прадметаў штодзённага карыстання. А сённяшняя моладзь выхоўваецца ў адкрытай краіне і без ніякіх цырымоній прымае тое, што добрае за мяжою. Падарожніцтва аўтастопам задарма лічыць яна так натуральнай справай, як прысутнасць МакДональда ў кожным большым горадзе.*

*Толькі старэйшыя людзі ў нас не рэфармуюцца. Едзе такая бабулька ў горад да дзяцей, доктара ці па нейкай іншай справе і, калі здарыцца, што нехта яе падвязе, абавязкова будзе за гэта плаціць. А ў самой пенсія мізэрненькая! Можаш ад такой платы адмаўляцца-адбівацца, а яна ўсё роўна нешта табе ўпісне. Калі не грошы, то прынамсі цукерку ці яблык дзіцяці, абы не заставацца ў даўгу.*

*У гэтым учынку, мне здаецца, ёсць пэўная філасофія нашага народа, якой ён быў верны стагоддзямі. Хоць мы бедныя, але нічога ад нікога задарма не хочам. А за дабро, за ласку, заўсёды гатовыя аддзячыць тым, што маем.*

*Нямоднае гэта цяпер. Але людзей, якія ўсё жыццё пражылі перакананыя, што толькі так трэба, нічога ўжо не зменіць. Яны нерэфармавальныя. І дзякуй ім за гэта.*

***Мікола Ваўранюк***

# Адукацыя патрэбна большасці

У днях 5-7 красавіка ў румынскай мясцовасці Сіная, што ў Карпатах, адбылася канферэнцыя, прысвечаная акрэсленню праблемаў звязаных з існаваннем нацыянальных меншасцей у краінах Сярэдняй Еўропы. Сустрэчу арганізавала Liga Pro Europa, якую ў 1989 годзе заснавалі амерыканскія і заходнееўрапейскія фонды падтрымкі дэмакратыі. Сваёй мэтай гэтая арганізацыя ставіць прыцягненне грамадстваў былых сацыялістычных краін да ідэі пабудовы дэмакратычных механізмаў вырашання ўсялякіх сучасных канфліктаў.

У апошніх гадах у краінах Сярэдняй Еўропы, побач гаспадарчых спраў, найбольшыя страсці выклікаюць нацыянальныя праблемы. Камуністычныя ўлады кожнай краіны ў гэтай зоне не звярталі ўвагі на існаванне нацыянальных меншасцей на сваёй тэрыторыі, замоўчвалі міжэтнічныя канфлікты, ігнаравалі іх культурныя і асветныя патрэбы, спрыялі асіміляцыйным працэсам. Першыя спробы дэмакратызацыі палітычнага жыцця ў гэтых дзяржавах адкрылі ўсім нацыянальным групам магчымасць дэманстраваць сваю адрозненасць. Большасць нечакана даведалася, што побач жывуць людзі, якія не хочуць гаварыць выключна на іх мове, больш шануюць культуру суседняй краіны чым дамінуючай нацыі. Адначасова амаль усе народы гэтага кутка кантынента захацелі далучыцца да еўрапейскіх структур. Там аднак паставілі справу ясна — спярша вырашыце правы чалавека і грамадзяніна ў сваіх краінах. Таму менавіта маланкава ствараліся вельмі цывілізаванае заканадаўства таксама ў адносінах і да нацыянальных меншасцей, з думкай пра іх пачалі стварацца школы і ўсялякія культурныя ўстановы. У рэчаіснасці, аднак, змянілася няшмат. Гэтыя пераўтварэнні былі вынікам вонкавага ціску і не выплывалі з інтэлектуальных і маральных прадпасылак кіруючых эліт дамінуючых народаў. Таму ў галіне міжэтнічных адносін атмасфера не надта змянілася.

У Сінаі сустрэліся прадстаўнікі нацыянальных меншасцей з Румыніі, Балгарыі, Венгрыі, Славакіі і Польшчы. Прыехалі таксама асобы, якія ва ўрадавых структурах сваіх краін займаліся нацыянальнай палітыкай. Як пры кожнай такой сустрэчы прадстаўнікі нацыянальных меншасцей наракалі на неталерантнасць большасці, на адміністрацыю, якая не спрые развіццю іх школьніцтва і культуры. З другога боку ўраднікі з Балгарыі, Венгрыі, Румыніі гаварылі, што маюць дасканалае заканадаўства ў сваіх краінах, а праблемы ўзнікаюць па прычынах незалежных ад іх дзяржаўнай палітыкі. Румынскія венгры ставілі ўладам краіны закід, што не дазваляюць ім на стварэнне свайго школьніцтва, але ў ходзе дыскусіі высветлілася, што мела яно быць амаль такое самае як у суседняй Венгрыі, як бы не ўлічвалі яны факта, што з'яўляюцца грамадзянамі іншай краіны. Балгарскія туркі, апрача традыцыйных нараканняў скардзіліся на клопаты з працаўладкаваннем у Балгарыі вупуснікоў вышэйшых навучальных устаноў у Турцыі. Але найбольш наракалі на свой лёс цыганы (ромы). Усе ім спачувалі, але так у сапраўднасці праўдападобна ніхто ім не дапаможа, бо ніхто ў гэтым не мае ніякага інтарэсу. Часам нехта нечакана сказаў пару слоў праўды пра свой народ, напрыклад, венгерка з Трансільваніі, якая пераехаўшы на працу ў Венгрыю пабачыла, што яе суродзічы ў сваёй краіне праводзяць такую самую палітыку, супраць якой шлюць пратэсты ўрадам Славакіі і Румыніі. Абараняючы суродзічаў венгры забываюць пра сваіх грамадзян — балгараў, сербаў, ромаў, славенцаў.

Нацыянальныя меншасці амаль кожнай краіны Сярэдняй Еўропы дамагаюцца дазволу і сродкаў на стварэнне сваіх культурных і асветных устаноў. Большасць глядзіць на іх як на дармаедаў, якія атрымліваюць сродкі з бюджэту, забываючы, што тыя ж меншасці плацяць таксама падаткі і што школы на роднай мове не з'яўляюцца ніякай прывілеяй. Дамінуючы народ ніколі не зразумее сваіх нацыянальных меншасцей, калі не будзе ведаць іх мовы і культуры. Таму высновы з трохдзённага семінара былі відавочныя: на пачатак патрэбная ёсць адукацыя ў галіне дэмакратыі і талерантнасці перш за ўсё для кожнай большасці. Дамінуючы народ стварае заканадаўства, вызначае прынцыпы палітыкі і ён мае ў сваіх руках уладу. Таму лёс меншасці залежыць перш за ўсё ад інтэлектуальнага стану большасці.

**Яўген Міранові**ч

# Выбары

— Дзядзька! Галасаваць будзеце? — пытаю суседа Якіма.

— Ой, не, сынку, не! — адказаў. — Я ўжо сваё адгаласаваў. Ну і жонка не дазваляе. Ой, даўней было інакш, — разрагатаўся Якім і пачаў успамінаць: — Бывала, як лопнеш бутэльку, вось тады і загаласуеш. Аж уся ваколіца пачуе. Не адзін казаў: „Зноў Якім загаласаваў. Пэўна налізаўся".

— Дзядзька, вы як былі жартаўнік, такім і асталіся. Вас толькі жарты трымаюцца. А я вас не аб гэтым хацеў запытаць, а толькі аб выбарах. Ці выбіраць будзеце?

Дзядзька не даў мне дакончыць.

— Пачакай, пачакай і слухай. Ніякіх выбараў я не хачу. На адных так апёкся, што цяпер і на зімнае дзьмухаю. А было гэта амаль сорак гадоў таму. Пачаў выбіраць сабе жонку. Ажаніцца задумаў, але сватоў не пасылаў. Падумаў так: „Сам буду з ёю жыць, дык сам і выбяру". А дзяўчат даўней было столькі, колькі кветак на сенажаці. Хаця касой касі і падграбай. А кожная аж пішчала ісці замуж, пра горад аніводная не думала, бо моды не было ў горад уцякаць. Выбіраў, выбіраў і выбраў. І так прытаміўся, што аж жаніцьбы адхацелася. Ведаеш, дзяўчаты прыгожыя і добрыя ўсе, пакуль яшчэ замуж не выйшлі. А калі выйдуць, тады свае ражкі пакажуць. А пакуль маладажоны датруцца, дашліфуюцца, многа вады ўцячэ, а калі не патрапяць дацэрціся, то ведаеш чым гэта канчаецца? — запытаў мяне і сам адказаў: — Разводам. Толькі, што ўжо няма тады музыкі і спеваў, толькі адны праклёны і слёзы.

Я аднак маўчаў і слухаў. Думаў, калі нагаворымся, тады да толку дойдзем. Аднак дзядзька прыціх і запытаў:

— Можа ты прагневаўся, можа цябе не цікавіць? Кажы. Давай паслухаем цябе. Ну, давай, давай, гавары, — заахвочваў мяне.

— Дзядзька, мяне не цікавіць ваша жаніцьба. І так усім вядома, што вы прыгожа жывяце з жонкай.

— Так, так, — пацвердзіў ён, — цяпер, дзякуй Богу, жывем як найлепш. Аднак, калі даціраліся, скрыгатала і ў нашай сям'і. Не аднойчы думаў: „Ну і выбраў!" Але час зрабіў сваё. Дзеткі пайшлі, жыццё перамянілася, усё пайшло на лепшае. Вось так і жывем. І штораз то лепш. Каб яшчэ час затрымаць, то было б і не згорш, або люстры павыносіць.

— Ну добра, дзядзька, давайце пасур'ёзнаму. Часу не затрымаем і люстры пакінем. Аднак жыццё змяніць можам.

— А як? — запытаў мой субяседнік.

— Вось будуць выбары ў Сейм. Пойдзем выбіраць паслоў. Выбярэм добрых людзей, якія зменяць нам жыццё на лепшае.

— Аднак я не ведаю, ці пайду выбіраць паслоў-аслоў, — адказаў дзядзька з павагаю. — А што яны мне ў жыцці далі? Нічога. І не толькі мне, а ўсім мужыкам. А выбіраў я не памятаю ўжо колькі разоў. Дык навошта тады мне выбіраць? — запытаў ён быццам бы сябе.

— Ведаеце, трэба выбіраць вядомых, адданых людзей, сваіх, такіх, што будуць нашы справы адстойваць, — кажу.

— А ты думаеш, сынок, што яны штосьці зробяць? Яны забудуць адкуль выйшлі і хто іх выбіраў, змяшаюцца з натоўпам і будуць гуляць так, як ім зайграюць. Ты пагляздзі на цяперашні Сейм. Аж смешна падумаць, што ён сялянам зрабіў! Чым жыццё паправіў? Нічога, абсалютна нічога. Амаль усю кадэнцыю гаварылі пра аборцыю і канкардат, як прычапіцца да Еўрапейскага саюза, як увайсці ў НАТО, быццам бы без гэтага далей жыць нельга. Ага, апошнім часам канстытуцыю ўхвалілі. А колькі ж гаворкі было аб якойсці праамбуле ці прабабулі? Сам не ведаю, што гэта за звер. І яшчэ мазгавалі як яе пачаць: „мы, народ польскі" ці „мы, польскі народ" і як напісаць, каб Бога не прагневаць, быццам бы і для Бога іхняя канстытуцыя была патрэбна? Праўда, схлусіў я трохі, бо і пра сялян прыганулі: цану на дызельнае паліва панізіць хацелі, але памаляваць яго не ўдалося, бо колеру не падабралі і так асталося. Відаць, кожная партыя не хоча свайго колеру даць. А партыяў сёння ў нас шмат і кожная свой колер мае. Аднак на салярку сялянам яго не хапіла. Відаць, справа астыне і напэўна праваліцца. Я прапаную зрабіць інакш! Каб было весялей, памаляваць трэба нам паслоў. Вось тады заметна было б, хто за кім у Сейме стаіць. А што, не праўду кажу?

Разрагатаўся дзядзька і ягоны вясёлы смех рэхам па вёсцы панёсся. Вось якія мы людзі! Сапраўдныя беларусы, усё на жарт перавяртаем. А за нашу справу, цікава, хто заступіцца?

**Грыша Мароз**

# Беласток — цэнтр беларускай культуры

Некалькі гадоў таму, калі вырашаліся справы далейшага фінансавання пабудовы Музея беларускай культуры ў Гайнаўцы і яго будучага ўладальніка, гаварылася, што Гайнаўка стане цэнтрам беларускай культуры ў Польшчы. Але нельга забываць, што культуру ствараюць людзі. Не хачу ў гэтым месцы абразіць гайнаўскае асяроддзе, але нагадаю, што вядомыя асобы беларускага культурнага і грамадскага жыцця звязаны ў даную хвіліну з Беластокам.

У Беластоку знаходзіцца сядзіба найстарэйшай беларускай арганізацыі — БГКТ; рэліктнай, хацелася б сказаць, але ў сітуацыі, калі яе старшыня завяваў званне „Чалавека года", магчыма, яшчэ ёй зарана на ладан дыхаць... Тут нядаўна адбыўся чарговы з'езд Беларускага саюза і хаця яго старшыня жыве ў Бельску, а працуе ў Гайнаўцы, аднак большасць сяброў управы — беластачане. У сталіцы ваяводства працуе Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь, якое з'яўляецца афіцыйным памостам між беларусамі Беласточчыны і Беларуссю. Вельмі прыхільна да беларускага культурнага жыцця ставіцца таксама Ваяводскі асяродак анімацыі культуры.

Прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч абяцаў беластоцкаму навуковаму асяроддзю дапамогу ў стварэнні самастойнага універсітэта, а Ежы Гедройц з парыжскай „Культуры" выказаўся за стварэнне ў ім кафедры беларускай гісторыі і культуры. Паспяхова дзейнічае таксама беларускае прадшколле — наймалодшая і найярчэйшая зорачка на беларускім небасхіле. І ўсё было б добра, калі б у Беластоку былі школы з беларускай мовай навучання. Думаю, што неўзабаве і гэты прабел будзе запоўнены, бо рыхтуецца адкрыццё першага класа з беларускай мовай для выпускнікоў згаданага прадшколля.

Аднак адсутнасць беларускіх школ у амаль 300-тысячным Беластоку лічу ганьбай. Калі прыняць, што ў Беластоку жыве 20—25% праваслаўных, атрымаецца лік 60—70 тысяч, а гэта больш, чым колькасць насельніцтва Гайнаўкі і Бельска. У гэтых гарадах працуюць падставовыя і сярэднія беларускія школы. Калі ў Беластоку не паўстане беларускае школьніцтва, вырасце нам маладое пакаленне без падставовай нацыянальнай адукацыі, якое ўжо не мае жывога кантакту з культурай і мовай сваіх продкаў. Гэты прабел у нейкай ступені запаўняюць урокі закону Божага. Аднак лічу, што толькі навучанне роднай мове і заняткі рэлігіі на гэтай мове могуць сфармаваць у моладзі беларускую нацыянальную свядомасць.

Цяпер у Беластоку згуртаваўся даволі вялікі інтэлектуальны патэнцыял беларускай меншасці ў Польшчы. Асабліва важную ролю можа адыграць журналісцкае асяроддзе (друк, радыё, тэлебачанне). Усё апынулася на добрым шляху. Тады давайце не спыняць кроку. Лічыцца кожная ініцыятыва і кожны малады чалавек, які возьме на сябе абавязак спазнаць свае карані. Павінны дапамагчы ім у гэтым беларускае інтэлектуальнае асяродзе і духавенства. Для нашага супольнага дабра памагайма сабе самі.

**Славамір Кулік**

# Заломамі, выгінамі...

Толькі што з'явіліся публікаваныя раней у „Ніве” „Дзённікі” Сакрата Яновіча[1]. Іх з'яўленне на выдавецкім рынку супала з пасмяротным двухтомным кніжным выданнем запіскаў Віктара Варашыльскага, якія гадамі друкаваліся на старонках штомесячніка „Więź”[2]. У такі вось спосаб лёс яшчэ раз спалучыў рэчаіснасці — здавалася б — несумяшчальныя, свет жывых са светам памерлых. Спалучыў ён пісьменнікаў абодвух народаў, пацвярджаючы гэтым у чарговы раз польска-беларускія узаемаадносіны, прысутнасць беларускай культуры ў польскай гісторыі, літаратуры і традыцыі, а таксама польскіх уплываў у культурных здабытках беларусаў. Блізкая нам культурная спадчына гэта, між іншым, творчасць Янкі Купалы, жыццё і дзейнасць Браніслава Тарашкевіча — перакладчыка „Пана Тадэвуша” ці асоба Алеся Гаруна — паэта, які пакоіцца на кракаўскіх вайсковых могілках, у кватэры жаўнераў 1920 года.

Памяць Віктара Варашыльскага і Сакрата Яновіча, іх карані, уражлівасць, эмацыянальны клімат датычаць зямлі, пра якую Станіслаў Балінькі напісаў, што яна „шуміць па-беларуску, а па-польску спявае”[3]. Погляды і эмоцыі абодвух пісьменнікаў з'яўляюцца для сябе суадняseннем і мерай. Вочы Віктара Варашыльскага, падобна як і Тадэуша Канвіцкага, поўнясцю Беларуссю і пастаянна накіраваны на Усход. Ён таксама адчувае яе вельмі асабіста. А Сакрат Яновіч — гэта адзін з яе жывых сімвалаў. Гэта менавіта ён — невыпадкова — становіцца чычэроне В. Варашыльскага ў даслоўных і пераносных вандроўках на Беларусь: „Zakosami, zakolami, zaklętymi ścieżkami nagłych zadumań, prześwitami zapatrzeń i zauroczeń, wracam przecież na moją Białoruś, oddalony od niej już przez większą część życia, niosący ją ze sobą jak garstkę ziemi na sercu, wracam sam i zawołany, za rękę prowadzony przez przewodników, jak teraz właśnie przez Żakiewicza i Janowicza, z nimi wracam na ich Białoruś i zapadam w nią jak w soczystą łąkę, gęsty sen, leśny gąszcz, w jej trwanie jednoczesne i niejednakowe, różnorako prawdziwe, bo ta Żakiewiczowa jest dzieciństwem i jego poranną radością, także lękiem, ale radosnym lękiem, jest urodą świata i fizyczną jego ciekawością, w ogóle czymś upajająco zmysłowym, również to co z dziedziny ducha — piosenkę, baśń, zamawianie — przetwarzającym na trzepot ciała, i w sam idiom tutejszy wciągającym jak w spazm rozkoszy, jak w miłośnie ogarniającą niemeńską falę, w ten idiom, wyśmiewany przez głupców, a o którym Adam Mickiewicz mówił był, że ze wszystkich słowiańskich najczystszy i najbogatszy, nacechowany podniosłą prostotą, ale to przypomnienie już z Janowicza, którego Białoruś jest w większym stopniu szamotaniem się bolesnym, szukaniem tożsamości, utwierdzaniem racji, sporem z sobą i światem, goryczą i zaciętością, co wszystko zresztą przyobleka się także w rodzaj chmurnej urody, w impet tworzenia, w zestalanie się kształtu”[4]. (...) „(...) myślę o Białorusi i Białorusinach, to wątek obecny w całym moim życiu”[5].




Прысутнічае ён таксама ў абодвух тамах запіскаў, якія менавіта цяпер трапляюць у рукі польскіх чытачоў. Адным з удзячных герояў кніжак В. Варашыльскага з'яўляецца Сакрат Яновіч і рэфлексіі на тэму ягонай творчасці або выкліканыя ёю. „Дзённікі” С. Яновіча і запіскі В. Варашыльскага — гэта дзве дарогі, па якіх прахаджваецца тая самая духовасць, паглыбленая ўражлівасць, боль і горыч існавання ў часе. Абедзве вядуць „заломамі, выгінамі” ў гэтую самую тэрыторыю і духовы клімат. „Дзённікі” С. Яновіча — гэта запіс стану свядомасці беларускага інтэлігента ў Польшчы, які жыва хвалюецца лёсам і доляй Беларусі, кніжкі В. Варашыльскага замацоўваюць вопыт і роздумы польскага інтэлектуала, які балюча адчуваў справы вялікія і малыя, крухкасць чалавечага лёсу, страту прыяцеляў, патрэбу сувязей і нацыянальнай салідарнасці, а перш за ўсё патрэбу свабоды. Дарогі, якія выходзяць з Крынак і Гродна вядуць вандроўніка ў тыя самыя раёны, у супольны свет вартасцей, вядуць да годнасці чалавека. Кніжкі абодвух аўтараў датычаць таксама таго самага фрагмента рэчаіснасці, якую размяжоўвае 1989 год. Цікавыя гэта і павучальныя кніжкі, якія ўсведамляюць нам, як нямногае нас дзеліць і як часта забываем аб нашай духовай роднасці і супольным вопыце. Наша сучаснасць і ход гісторыі ставяць перад намі ідэнтычныя пытанні: што сёння значыць быць беларусам? Што сёння значыць быць палякам? Ажываюць нашы драмы і дылемы. Пранікаюцца ўзаемна польскія непакоі і беларускія боязі, якія выяўляюцца таксама ў прыведзеных В. Варашыльскім вершах — Алеся Гаруна

Z dawien dawna po ojczyźnie
Zły wilkolak chodzi,
Ale wciąż nie pieją kury,
Słoneczko nie wschodzi.

і Янкі Купалы

Nie, nie nastanie!
To już nie świtanie,
To nastało nasze zmierzchanie,
Z mową moją,
Z pieśnią moją
To pożegnanie...

„Дзённікі” Сакрата Яновіча і запіскі Віктара Варашыльскага безупынна пераконваюць нас, што беларусы ўвесь час мараць аб тым, каб „дазволілі ім цешыцца”, а палякі ніяк не ўмеюць выйсці з „джунгляў свабоды”. Заломамі, выгінамі падкрадваецца надзея...

**Тэрэса Занеўска**

---

[1]Сакрат Яновіч, *Дзённікі*, Rada Programowa „Niwy”, Białystok 1997.

[2]Wiktor Woroszylski, *Pozwólcie nam się cieszyć. Kronika prywatna 1981-1989, z zapisków z rozmaitym opóźnieniem, listów nie prywatnych i innych tekstów tego czasu ułożone*, Biblioteka „Więzi”, Warszawa 1996, ss. 349.

Wiktor Woroszylski, *W dżungli wolności. Kronika prywatna 1989-1993, z zapisków z rozmaitym opóźnieniem i innych roztrząsań czasu tego ułożona*, Biblioteka „Więzi”, Warszawa 1996, ss. 247.

[3]zob. Stanisław Baliński, *I to jest cały sekret tej ziemi*, [w:] Tegoż, *Perygrynacje. Poezje wybrane 1928-1981*. Wybór Paweł Hertz. Państwowy Instytut Wydawniczy, Warszawa 1882, s. 159.

[4]W. Woroszylski, *Pozwólcie nam się cieszyć...*, s. 94.

[5]Tamże, s. 79.

# Румынія — край кантрастаў

Большасць палякаў глядзіць на румынаў цераз прызму жабруючых на вуліцах гарадоў Польшчы цыганоў. Тым часам не з'яўляюцца яны найлепшым прыкладам стылю жыцця большасці румынаў. Наадварот, з сарамлівасцю ўспрымаюць яны інфармацыю, што некаторыя грамадзяне Румыніі ствараюць такі вобраз іх краіны ў свеце. Калі перасякаецца мяжу такой краіны як Румынія, узровень жыцця яе жыхароў можна ставіць толькі на фоне Польшчы, Беларусі ці другіх краін усходу Еўропы. Шэрасць гарадоў, паржавелых фабрычных трубаў, дзіравых дарог гарманічна ўпісваецца ў постсацыялістычную прастору.

На вуліцах румынскіх гарадоў не відаць жабракоў, але таксама няма вялікага багацця. Аўтамабіляў замежнай прадукцыі прыблізна тут столькі, колькі дзесяць гадоў таму ў Польшчы. Вядомая ў нас „Dacia” выступае там у некалькіх тэхнічных варыянтах. Найнавейшыя мадэлі прэзентуюцца вельмі атракцыйна. Знакамітая большасць румынаў апранаецца і абуваецца ў вырабы айчыннай вытворчасці. Усе прадукты замежнага паходжання, пачынаючы ад віна, абутку, гаспадарчых прыладаў, электратэхнікі ў 3-5 разоў даражэйшыя чым румынскія. У крамах ёсць амаль усё, так як у Польшчы, толькі пакупнік трапляецца вельмі рэдка. У рэстаранах вечарам цяжка знайсці свабоднае месца, а яшчэ цяжэй дачакацца афіцыянта. Інакш ёсць у прыватных кафейках, але там цэны найчасцей падвойныя.

Румынскія мястэчкі паказваюць, што нават пры камунізме быў гэта край немалых кантрастаў. Партыйная вярхушка мела свае цэнтры адпачынку, крамы, рэстараны. Часта былі гэта месцы цалкам прыхаваныя ад вока звычайнага грамадзяніна. Сёння асталіся толькі высокія бетонныя агароджы, праз якія цяпер можна прайсці цалкам легальна, цераз браму, а таксама за 40 доляраў праспацца ў апартаментах былых сакратароў партыі. У мясцовасці Сіная, дзе раней была летняя рэзідэнцыя румынскіх каралёў Гогенцолернаў, а пасля камуністычнага дыктатара Нікалае Чаўшэску, сёння найчасцей адпачываюць замежныя турысты. Гасцей, аднак, там вельмі мала. Большасць памяшканняў у казачнай прыгажосці палацах пустуе. Нават неверагодна атракцыйны карпацкі краявід не прыцягне гасцей, паколькі ў Еўропе Румынія асацыюецца з краінай жабрацтва і галечы. Ва ўспомненай Сінаі тэрасавы характар пабудовы каменных вілаў стварыў архітэктурны ансамбль, які як бы зліваецца са схіламі гор. Каменныя сходкі, каменныя дарогі, каменныя агароджы паказваюць, што жыхары тае зямлі працавалі не менш чым іншыя народы.




Людзі на вуліцах выглядаюць неяк сумна. Нават інтэлігенцыя на простае пытанне: „Як вам жывецца?”, не надта хоча адказваць. Найчасцей можна пачуць, што было вельмі дрэнна, але і цяпер не ёсць добра. Румыны — людзі вельмі ветлівыя, зацікаўленыя вонкавым светам. Свядомыя свае беднасці на фоне Еўропы, як бы саромяцца існуючага стану і пераконваюць замежнікаў, што неўзабаве шмат чаго ў іх дзяржаве адменіцца. Алe відаць, што самі ў гэта не надта вераць.

Румынія — праваслаўная краіна. Рэдка, аднак, сустракаецца там царкоўная архітэктура. Царкоўкі, якія перажывалі камунізм, патрабуюць генеральных рамонтаў. Бедныя вернікі, выхаваныя ў ізаляванасці ад рэлігійнага жыцця, не будуць крыніцай сродкаў для аднаўлення помнікаў іх духоўнай спадчыны. У гэтай галіне ў Румыніі намнога горшая сітуацыя, чым на тэрыторыі былога Савецкага Саюза.

Новыя ўлады Румыніі рашуча выбралі маршрут у напрамку рынкавай гаспадаркі. У гэтым годзе плануецца прадаць амаль 5 тысяч дзяржаўных фірмаў. Гэта нешта больш, чым „шокавая тэрапія Бальцаровіча”, але ёсць надзея, што праз дзесяць гадоў у Румыніі будзе можна пабачыць задаволеных з сябе і шчаслівых яе жыхароў.

**Яўген Міргановіч**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



# Добрыя традыцыі ў Дашах

— Выпала так, што на саракагоддзе асталося ў нас сорак дзяцей, — кажа дырэктар Пачатковай школы ў Дашах **Таіса Селевановіч**.

У настаўніцкім пакоі гавораць пра ліквідацыю школы. Да Кляшчэль адсюль недалёка. На дадатак там стройная, сучасная школа. Аднак гэтая перспектыва не выклікае захаплення. Людзі не любяць пакідаць дарагіх месц, дзе прамінула многа бурных і працавітых гадоў.

— Яшчэ ў пачатку 90-х гадоў у нас многа дзеялася, — паказваюць як доказ школьную хроніку настаўнікі. У Дашах існаваў танцавальна-вакальны гурт „Беларусачкі". Настаўніца Валянціна Дуда ўмела захвоціць сваіх маладых артыстаў да народнага. Зараз некаторыя дзяўчаты спяваюць у мясцовым калектыве „Каліна". Гэта амаль не сустраканая з'ява на Беласточчыне.

— Тады было ў нас многа моладзі, — успамінаюць настаўнікі. А зараз, каб і хацелі, не змаглі б паўтарыць такога. Вымірають навакольныя вёскі. З Дашоў, людной і даўжэзнай вёскі вучыцца цяпер жменька дзяцей, астатнія вучні з Грузкі, Пятроўшчыны, Жукоў, Паграбоў, Касной, Паўлава і ПГРа, што непадалёк Жукоў. Настаўніца беларускай мовы **Тамара Рачкевіч** пазнаёміла мяне з сімпатычнымі дзеткамі з II і III класаў. Дзеткі расказвалі пра свае пазаўрочныя заняткі. Многія з іх дапамагаюць ужо бацькам. Пры нагодзе высветлілася, што дзеці вельмі добра размаўляюць усе „па-беларуску" (гэта значыць на палескім дыялекце). Пазней мы завіталі да старэйшых вучняў.

Школа ў Дашах мае добрыя традыцыі. Сярод выпускнікоў аж сем святароў. З Дашоў і наваколля выйшла таксама многа матушак.

— Нашы вучні найчасцей ішлі ў сярэднія школы, — успамінаюць настаўнікі. — А найбольш папулярнымі школамі былі беларускія ліцэі, — дадаюць. Шкада, што зноў спыняе дзейнасць чарговая вясковая школа. У такіх месцах лягчэй захаваць мясцовыя каштоўнасці — мову, абрады, веравызнанне. Мяне ўразіла гасціннасць тутэйшых настаўнікаў. „Частавалі" мяне роднаю моваю і, як належыць у вялікі пост, посньмі бутэрбродамі. Уразіла і тое, што не падаюць тут духам. У маі ўсе дзеці і настаўнікі збіраюцца на экскурсію ў Кракаў і Чанстахову. Паездка гэтая будзе магчымая дзякуючы працы саміх удзельнікаў. Тутэйшыя вучні нямала напрацаваліся збіраючы металалом і садзячы лес. Школа заўсёды ўдзельнічала ў конкурсе „Dziś oszczędzam w SKO jutro w PKO". У бягучым навучальным годзе ПШ у Дашах заняла першае месца ў Беластоцкім ваяводстве.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

## Вершы Віктара Шведа

### Ужо лопнула галоўка?

— Чуюся надзвычай дрэнна,
Скардзіцца матуля Олі.
Галава баліць страшэнна,
Хіба лопне ўжо ад болю.

Мокрым ручніком мамуся
Галаву звязала лоўка.
Запыталася дачуся:
— Ужо лопнула галоўка?

### Купі мне сабачку

— Сабачку купі мне, мама,
Просіць малая Анэтка.
— Калі ўжо ў нашай праграме
Купля другое дзеткі.

Дачушцы скардзіцца маці:
— Плаксівы такі сынок Якаў.
— А я ж табе раіла ў хаце
Купіць лепш малога сабаку.

### Нідзе я не выйшаў

У дзень святочны маці
З маленькім сынком
Аглядае ў хаце
Са здымкамі альбом.

— Ты выйшаў добра, Міша,
Такая прыгажосць!
— А я ж нідзе не выйшаў
Я ж тут, матуля, ёсць.

### Тата

У мяне прыгожы тата,
я яму заўсёды рада.

Вусы ў таты майго ёсць —
ах, якая прыгажосць!

Ён чарнявы і высокі,
ён са мною любіць скокі.

Не крыклівы, не гняўлівы,
татка ветлівы на дзіва.

Тата любы, татка родны
на мяне адну падобны.

Накрываў стол тата мой,
за сталом сядзім сям'ёй:

мама Ала, тата Саша
і Ганулька, донька ваша.

**Ала Канапелька**

# Пакінутая вёска

Палічна звычайна спалучаецца нам, моладзі, з гульнямі і дыскатэкамі. Згодна легендзе, сяло гэтае паўстала ўжо даўно-даўно. Калісьці, гэтыя землі парасталі хмызы і кусты, разнавідныя травы, „трымезы". Пасярэдзіне хмызняку была паляна. Аднаго разу прыехаў у гэтае месца чалавек і там, на паляне, пабудаваў хату і заснаваў сям'ю.

З таго часу на гэтай паляне пачало паяўляцца ўсё больш і больш асаднікаў. Так паўстала Палічна. Цяпер налічвае яна да 100 хат — аднак большасць з іх ужо стаяць апусцелымі і пакінутымі.

Адзін з жыхароў вёскі кажа:

— Цяперашняя моладзь — лянівая, не хоча сядзець на гаспадарцы. Уцякае ў горад. Таму так мала людзей у вёсцы.

З кожным годам падае лік людзей у Палічнай. Астаюцца толькі самотныя, пустыя, драўляныя хаты. Палічна не з'яўляецца багатай вёскай. Пераважаюць драўляныя дамы, некаторыя стрэхі пакрыты яшчэ саломай. Мяне найбольш зацікавіла тое, што тут многа (амаль на кожным панадворку) жураўлёў, якія вельмі палягчаюць тутэйшым людзям чэрпанне вады з калодзежа. Тутэйшыя людзі займаюцца ляснічтвам, выплятаннем кашоў і сельскай гаспадаркай. Многія жыхары з зацікаўленнем чытаюць „Ніву", аглядаюць тэлебачанне і слухаюць радыё.

Хаця людзі ў Палічнай не вельмі багатыя, то аднак ёсць тут многа крамаў і кіёскаў, у якіх ніколі не забракуе піва для кавалераў. А гэтых у вёсцы многа-многа.

**Аня Пракапюк**
**вуч. VIII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных**

*(Рэпартаж узнік пасля VI Сустрэч „Зоркі")*

# Юр'еў дзень

Мая бабуля расказала мне, што калі ёй было восем гадоў, то ўжо памагала бацькам. Яна рвала лён, пасвіла кароў і пільнавала малодшага брата Мішу.

Калі набліжалася свята Юр'я, бабуля са сваімі бацькамі і іншымі сялянамі абыходзілі сяло навокал. Ішоў і бацюшка, і на кожным полі маліліся за добры ўраджай.

На Юр'я ўсе ішлі на поле, дзе расло жыта. Прыносілі мяса, хлеб, кампот і гарэлку. Калі ўжо ўсе сяляне сабраліся, то разам елі, пілі і весяліліся. Я люблю расказы маёй бабулі пра яе дзяцінства, бо было яно зусім іншае як маё сення.

**Марк Пыж, V клас ПШ у Орлі**

# Як нашы продкі ладзілі вяселле

Калісьці на вяселле не прасілі так многа людзей як цяпер. Затое шмат было цікавых абрадаў, вясёлых песень. Гэтая ўрачыстасць працягвалася многа дзён.

Пад канец трыццатых гадоў маладую адзявалі ў звычайную сукенку, а раней яшчэ ў саян і кофтачку, найчасцей зялёнага колеру. На галаве маладой красаваўся вянок, які адрозніваў яе ад другіх дружак. Калі на штодзень дзяўчаты хадзілі найчасцей боса, то на вяселле стараліся купіць ужо чаравікі. Малады нічым спецыяльна не адрозніваўся ад дружбантаў.

Вяселле пачыналася ўжо ў суботу. Удзень, у доме маладой збіраліся жанчыны і памагалі рыхтаваць вяселле. Пяклі яны супольна каравай. Быў гэта вельмі вялікі пірог, многа важыў і зверху быў прыбраны рознымі аздобамі з цеста. Самымі папулярнымі і абавязковымі былі гускі. Напаміналі яны польскую літару „S". „Цестаў" на вёсцы ніякіх не зналі, таму не пяклі іх на вяселле.

Увечары прыходзілі сяброўкі маладой, успаміналі дзявоцтва і супольна спявалі.

Да шлюбу ехалі вясельнікі на трычатыры вазы. Былі яны прыгожа прыбраны кветкамі і зялёнымі галінкамі дрэў. Шлюб святар даваў толькі на заканчэнне набажэнства.

Потым усёй грамадой ішлі на абед. Госці елі і весяліліся. Супольныя спевы былі неабходным элементам вяселля. Госці і людзі, якія збіраліся пад акном спявалі лірычныя жартаўлівыя песні. Напрыклад, людзі за акном спявалі:

*Ліэз сват по драбіні*
*Впав міжду свіні,*
*Сталі свіні квічаті,*
*Став сват вэрэшчаті,*
*Бэрытэ дружкі ключкі*
*Вытягайтэ свата з кучкі.*

А ім у адказ спявалі:

*Што вам за тое даті,*
*Што вміеетэ брэхаті,*
*Чы гороху міску,*
*Чы собаку Лыску,*
*Чы дурня на пувміску.*

Ці іншыя:

*Наш сват нэ вдався,*
*Сем лет нэ вмывався,*
*А восьмого року пушов до рынштоку,*
*Як там умывся,*
*То до нас за свата впросівся.*

Або:

*Дружка сватам кашы наварыла*
*Елі сваткове елі,*
*Чорного кнура з'елі,*
*Бегалі кругом хаты,*
*І хотілі здыхаті.*

Вечарам была вячэра, а потым госці гулялі да раніцы. На канец маладая пара ехала ў дом маладога.

Трэцяга дня вяселле ехала за маладою парай. Найважнейшы быў воз, на якім сядзелі ўсе сваты. Везлі яны сундук (скрыню), у якім былі рэчы маладой. Высока над сабой трымалі сцяг. Калі заехалі пад дом маладога, брама была перавязана вяроўкай. Трэба было заплаціць за ўезд на панадворак, даючы гасцям маладога гарэлку. Калі воз быў на панадворку сваты маладога мусілі адабраць сцяг. Калі ім гэта не ўдалося, за сундук (скрыню) ім трэба было заплаціць. А калі ўдалося, маглі тады ўзяць скрыню дарма. Потым забава працягвалася да раніцы.

Артыкул гэты я напісала паводле ўспамінаў маёй бабулі Вольгі Паўлючук, народжанай у 1908 г.

**Аня Сідарук**
**VIII кл. ПШ у Храбалах**

*Дэкламатары Аня і Андрэй Паўлючукі са школы ў Крывой.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Крыжаванкі № 17

## *Магічная крыжаванка*

1. пісьмо
2. сын Дэдала
3. тоўстае мяса
4. сетка для лоўлі рыбы з суднаў

| | 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | |
| 2 | | | | |
| 3 | | | | |
| 4 | | | | |

## *Школьная крыжаванка Касі Леанюк*

гадзюка
чуем і вымаўляем
спявае паэзію
дзень, месяц, год
самы вялікі, дзікі кот
дае Красуля
на бярозе тоненькія
узыходзіць і заходзіць
у акварыуме
больш за мыш
цёплы на шыі
вострыя ў драпежніка
„... і гора" — казка з 33 н-ра „Зоркі" за 1996 г.

Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў рэдакцыю на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванкі н-р 13**

Школьная крыжаванка: **Беларус.**

Польска-беларуская панарамная крыжаванка: гумно, дуля, кат, касы, гук, кулак, мята, вокны.

Кніжкі М. Гайдука „Белавежскія быліцы і небыліцы" выйгралі: **Яраслаў Бірылка** з Новага Беразова, **Рафал Сухадола** з Нарвы, **Рафал Лаўрыновіч** са Старога Беразова, **Наталля Маркевіч** з Ласінкі, **Лукаш Асташэўскі** з Нарвы, **Мажэна Генішэўская** з Гарадка, **Эмілія Місяйчук** з Чыжык, **Дамініка Сідарчук** з Шэшыл, **Кася Кучко** з Махнатага, **Аня Саеўская** з Кленік.

Віншуем!

# Дзяўчынка з-за вуліцы

З часоў майго дзяцінства, пяцьдзесят гадоў таму назад, калі можна было сабе гуляць уволю, запамяталася мне адна дзяўчынка. Жыла яна па другім баку вуліцы, у вялікім белым доме. Дзяўчынка была старэйшая за мяне на паўгода, ці можа на цэлы год, затое была яна меншая за мяне на нейкую чвэрць свайго росту.

Любіла яна ўсюды соваць нос, а найбольш тады, калі не дазвалялася ёй на гэта. Аднойчы ў цёплы, ясны дзень ёй вельмі захацелася паехаць на мора пабачыць у вадзе вялікія драпежныя рыбы і пакаштаваць ці вада сапраўды салёная. Падумаў я, што яна, мабыць, здурэла, захварэла...

— Ты, малая..., — адазваўся я, але не паспеў скончыць.

— Што-о-о, ты-ы сказаў?! — перапыніла яна. — Нельга табе так да мяне гаварыць, разумееш! Я старэйшая і магу табе даць такога выспятка, што не сядзеш!!! — пачала крычаць малая, што аж трэба было вушы затыкаць.

— ... слухай, — працягваў я далей, — мора вельмі далёка адсюль і трэба многа грошай, каб туды даехаць.

— Але я паеду, бацька грошай мае нямала.

— Хопіць табе хваліцца! А ты хаця ведаеш, як выглядае мора?

— Больш-менш, так.

— А магла б ты мне нарысаваць мора?

Дзяўчынка пабегла дадому. Падумаў я, што буду мець спакой ад тае бабы. Назаўтра я гуляў у мяч на панадворку і нечакана чую, як мая малая суседка крычыць у акне.

— Гэй-й! Хлопчык з-за вуліцы, прыйду да цябе праз пяць хвілін.

Не мінула паўмінуты, а яна ўжо тут.

— Хочаш пабачыць мой рысунак?

Узяў я карціну і прыглянуўся. А чаго там не было! Яна рысавала яшчэ лепш за мяне. На чырвоным пляжы прыпякала сонца, людзі ляжалі і загараліся на зялёны колер. Мора было жоўтае.

— Жоўтае мора? — здзівіўся я. — Ці ты бачыла калісьці жоўтую ваду?

— Не бачыла, але ў атласе я прачытала, што ёсць Жоўтае мора. Я паеду на гэтае мора ў Кітай.

З такою бабаю можна здурэць. Аддаў я рысунак і пайшоў дадому. Цяпер мінаю яе здалёк, каб не слухаць яе расказаў. І да сёння не ведаю, ці дзяўчынка з-за вуліцы паехала на тое мора ці не.

**Тамаш Жак**
**вуч. VI кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных**



Талон „Зоркі" № 17
27.04.1997

# Велікодныя звычаі

**Многае з велікоднай традыцыі ўжо прапала, а сённяшняя моладзь культывуе толькі „смігус-дынгус" або „провады". Аб гэтым, якія звычаі спадарожнічалі калісьці велікодным святкаванням расказваюць старажылы Орлі.**

— Мая мама Акуліна Біняковіч з Дубін, — успамінае 92-гадовая **Наталля Камарчук**, — расказвала, што ў першы дзень Вялікадня хадзілі валачобнікі — хлопцы, якія заходзілі на панадворкі ды спявалі гаспадарам велічальныя песні, жадалі поспехаў і добрага плёну. Калі гаспадар аказаўся шчодрым, выносіў валачобнае — кавалак пірага, некалькі яек, скруток каўбасы, а часам самагонку ці віно. Здаралася і так, што калі гаспадар прагнаў валачобнікаў, тыя спявалі непрыхільныя яму песні.

Адзначалася таксама радуніца, калі людзі шлі на магілы блізкіх, рассцілалі на іх абрусы, ставілі няпарную лічбу страў, палівалі магілу гарэлкай і запрашалі нябожчыкаў у гасціну. Сярод страў заўсёды былі мёд, тварог, грэцкія бліны, каўбаса або вэнджанае свіное мяса. Людзі верылі, што разам з вясною прабуджаюцца памерлыя, якіх трэба было падмацаваць і правесці з імі святочны час. Сёння няма ўжо частавання на магілах, але на трэці дзень Вялікадня людзі наведваюць магілы блізкіх і пакідаюць на іх яйкі і рэшткі святочных страў, якія потым з'ядаюць птушкі.

— На другі дзень Вялікадня, — расказвае 80-гадовая **Зінаіда Нядзельская**, — праваслаўныя заўсёды наведвалі сваіх блізкіх і знаёмых. Найбольш цешыліся гэтым дзеці, якія зараз пасля снедання заходзілі да сваіх хросных бацькоў, ад якіх атрымоўвалі падаркі. Дзеці калісьці не былі такія смелыя, як цяпер. Памятаю, зайду да хроснай маці, стану ў куточак і саромеюся адазвацца. Тады дзецям грошай не давалі, толькі некалькі яек ці кавалак пірага, часам нечым пачаставалі.

* * *

Велікодны панядзелак — час палівання вадою бліжніх, часам без канца і меры. Найбольш у гэты дзень пакутуюць прадстаўніцы прыгожага полу. Звычай „смігуса-дынгуса" выводзіцца са старажытнасці, а ў розныя эпохі абліваліся па-рознаму: пырскалі парфумаванай вадой з флаконікаў, палівалі вадой з гаршкоў, а нават аблівалі нечыстотамі. Звычай гэты аказаўся так надакучлівы, што кароль Уладзіслаў Ягайла забараніў яго. Але, як відаць, безвынікова, бо сёння абліваюцца, асабліва падлеткі, вадой з вёдраў, пластмасавых бутляў ды іншых начынняў. Апошнім часам у гарадах распаўсюджваецца прыкры і небяспечны спосаб палівання прахожых: скідванне з вакон і балконаў напоўненых вадою пластмасавых мяшкоў ці гумавых шарыкаў.

Згадваем гэты мокры звычай выключна дзеля гістарычнай праўды, а не з мэтай заахвоціць чытачоў дакучаць чытачкам. На нашых вёсках найчасцей паннаў ужо няма, толькі старыя кавалеры, якім у сваю чаргу няма каго абліваць, тады і звычай гэты адыходзіць у забыццё.

**Міхал Мінцэвіч**

# І што далей, васьмікласнік?

Выбар будучай прафесіі і адпаведнай школы — справа складаная. З гэтай праблемай кожны год сустракаюцца васьмікласнікі. Каб дапамагчы ім канкрэтызаваць мары і планы, арганізаваў я для сваіх выхаванцаў з Дубіч-Царкоўных экскурсію ў сярэднія школы Гайнаўкі.

Спачатку наведалі мы Комплекс прафесіянальных школ, дзе нашым праваднікам быў намеснік дырэктара інж. Ян Кавэцкі. У гэтым годзе школа прыме па 30 чалавек у дрэваапрацоўчы і механічны тэхнікум, а таксама ў прафесійныя класы па спецыяльнасцях слесар і токар; 60 асоб — па дрэваапрацоўчай спецыяльнасці і 70 выпускнікоў у шматпрафесійныя класы. Заняткі ў тэхнікуме будуць адбывацца зранку, а ў прафесійным вучылішчы — пасля абеду. Школа распараджаецца інтэрнатам: кошт аднаго месца з харчаваннем — 100 зл. у месяц.

Васьмікласнікі мелі магчымасць пабачыць спецыялістычныя лабараторыі. Затым інж. Віктар Дзік паказаў нам дрэваапрацоўчую майстэрню. Прыгадаў ён, што школа была заснавана ў 1924 годзе. Цяпер школьныя майстэрні працуюць на прынцыпе самастойнага разліку. У мінулым годзе атрымалі яны 16 тыс. зл. на вугаль, а рэшту грошай зарабілі вучні і двое чэлядніkaў. Першы выраб кожнага вучня гэта ўласнаручна выкананая табурэтка. Выпускаюцца тут яшчэ будаўнічая сталярка і іншыя прадметы па заказу. З механічнай майстэрняй пазнаёміў нас Мікалай Ядасюк. У ёй вырабляюцца многія дэталі для печаў цэнтральнага ацяплення і такарны станок WS-16. Вядзецца ўжо падрыхтоўка да адкрыцця свайго фірменнага магазіна.

Чарговым этапам экскурсіі быў Беларускі ліцэй. Тут нас сустрэлі дырэктар Яўген Сачко і ягоны намеснік Аляксандр Лаўрыновіч. Прыпомнілі яны гісторыю ліцэя і нагадалі, што ў новым будынку заняткі пачаліся ў верасні 1993 года. На месцы старой школы цяпер красуецца вялікая спартыўная зала, а ў маі г.г. пачнецца будова крытага басейна. Віцэ-дырэктар А. Лаўрыновіч падкрэсліў, што найлепшай візіткай школы з'яўляецца сучасная спартзала. Паасобныя кабінеты паказаў я сам, паколькі ў гэтым навучальным годзе вяду тут урокі геаграфіі.

Сёлета ў белліцэй будзе прынята 120 асоб. Плануецца адкрыць класы наступных профіляў: матэматычна-фізічны і біялагічна-хімічны, у якіх будуць выкладацца нямецкая (3 гадз.) і англійская (2 гадз.) мовы, ды гуманістычны і асноўны з нямецкай (3) і рускай (2) мовамі.

Да другога ліцэя мы не пайшлі, бо мае вучні паступаць туды не збіраюцца. Васьмікласнікі былі задаволены экскурсіяй. Чатырох найлепшых вучняў вырашылі паступаць у беларускі ліцэй. Пасля экскурсіі адна вучаніца памяняла ранейшыя свае планы працягваць вучобу ў эканамічным ліцэі і паслала дакументы ў белліцэй у Гайнаўцы.

Усім сёлетнім выпускнікам пачатковых школ жадаю поспехаў на экзаменах.

**Славамір Кулік**

# Новыя вершы

**Юры Баена**

* * *

Спрадвечным словам
трэба жыць,
міма пагроз,
што будуць растаптаныя,
пазваныя на смерць
праз забыццё
і здраду.

Спрадвечным словам
трэба быць
сярод гнязда
разбуранага ветрам,
і мар зламаных,
і душ патрэсканых
у бітвах.

Спрадвечным словам
трэба быць у нас
трываць
як святасць
або храм,
што адраджаецца
ў малітвах.

## Хаджу па канаце

Хаджу па канаце

кожная няўвага
памылка
ці спатыкненне
ў лепшым выпадку
можа мне скончыцца
паламаннем ног

Рацыянальна глянуўшы
няма ўжо выхаду

калі раней
такі быў выбар

## У паміраючай вёсцы

У паміраючай вёсцы
адзін толькі месяц
штовечар кагосьці чакае
штоноч кагосьці шукае
срэбрыць хаты і дрэвы
пустыя сцежкі і вуліцу
ціхія панадворкі
камяні халодныя
і лавачкі

Глядзіць
з вышыні пяшчотна
зрокам учарашнім

## Выбар

Калі ад болю сэрца
табе хочацца выць,
маўчыш.
Або робіш гэта ціха.

Калі ідзеш за кругагляд,
на другі бераг ракі,
мабыць і не думаеш
пра сваё вяртанне.

Калі на гонях
траянскія коні пасуцца,
чаму, здаецца,
іх не прагоніш?

Зло спараджае зло,
а ты яго
быццам і не бачыш...

Аднак, калі трэба
быць сабой, беларусам,
калі няма выбару,
устань

і на сваю адказнасць
пакажы яшчэ
чалавечнасць.

## Заўтра

Усё прадбачлівае і нязнанае
здарыцца можа заўтра,
паслязаўтра
або крыху пазней —
так не адзін
год за годам
мінае ў снах.

„Заўтра" — гэта значыць „заўсёды",
або „ніколі".
Два супрацьлеглыя словы
змагаюцца за права
да вечнасці.

Многае зямное адбываецца
па-за нашым прадбачаннем,
здаецца, без ніякай патрэбы
і без дазволу.

Таму, як знакі свабоды,
сны і мары
апраўдваюць змаганні,

каб дарэшты
не паддацца
капрызам лёсу.

# Баба Ганна і цыганы

Бабуля Ганна з Райска, адкуль аўдавела, баіцца чужых, асабліва цыганоў. Вядома: хата на водшыбе, чалавек сам старэнькі, нядужы ўжо. А тут і сабака ўжо бяззубы, больш для моды і спагады для яго ўзросту, на чалавечы век ужо дзевяностапяцігадовы!

Першая нарвалася Міра Лукша, што збірала матэрыял пра вёску Райск. Згледзела баба Ганна „цыганку", спалохалася, але Міра засакатала па-беларуску, успомніла Ганніну прыёмную дачку Марысю, і бабуля супакоілася. Усё ж, гаварыць замнога не гаварыла, адсылала да іншых. Другі раз Гандзя Кандрацюк, яшчэ больш „цыганская" са сваімі доўгімі распушчанымі валасамі і ў каляровай доўгай спадніцы мела больш клопату з пераканаsuccessive бабы Ганны, што яна — простая журналістка „Нівы", карт з сабою не носіць і зусім не цікуе, каб што падсцібрыць.

Усё ж, бабу Ганну абакралі. Узяла была старэнькая сякерку, пайшла за хлявок секчы дровы, бо хто ж ёй паможа? Цяпала, цяпала сякеркай бабуля па пяньках, і не заўважыла, як на раенскай дарозе затрымалася аўто, адтуль выйшлі дзве экзатычнага выгляду жанчыны і пашпарылі пад яе хату. З-пад прызбы дасталі ключ і пайшлі шукаць не свайго. Якое ж было здзіўленне і бабы Ганны, і няпрошаных госцей, калі сустрэліся ля парога! Жанчыны вывалакалі дзве напакаваныя палатняныя бабіны торбы.

— Можа ў нас што купіцэ? — запрапанавалі „цыганкі" скамянелай бабулі.

Тут баба Ганна ачнулася, завішчала на ўсю моц. Бабы, убачыўшы ваяўнічую гаспадыню з сякеркай, кінулі торбы і кінуліся наўцёкі.

Папраўдзе, з хаты прапала не так і шмат. З-пад сяннікa выцягнулі 100 злотаў і драбнейшыя з кашалька. З каморы пазабіралі ў торбы слоікі з мясам, з варэннем. Найбольшая шкода — знайшлі ключыкі ад пасажных яшчэ куфраў бабулі. У адной скрыні ляжала толькі адзенне — яно зладзеек не зацікавіла. А другога куфра не змаглі адкрыць, ды ўсё ж ключыкі забралі. Так што баба Ганна адзін куфар не можа адчыніць, а другі стаіць незамкнёны.

Баба Ганна цяпер баіцца яшчэ больш. Перажыла раенскую нядолю, пражыла свой нялёгкі век. Хто цяпер яе, самотную, як і іншых адзінокіх старэчаў па вёсках, абароніць? Што ім рэнта, далёкія сваякі, хай і найлепшыя, калі зло наўкола толькі сочыць, як пакрыўдзіць безабаронных!

**Міра Лукша**

# Успаміны дзядзькі Валодзі

**Уладзімір Рамановіч** нарадзіўся 13 ліпеня 1912 года ў вёсцы Астраўкі, што ў Заблудаўскай гміне. Хоць яму ўжо 85 гадоў, але ў яго добрая памяць і чытае ён газеты без акуляраў.

Яму, як маленькаму дзіцяці, давялося з сям'ёй падацца ў бежанства ўглыб Расіі ў 1915 годзе. Апынуліся яны ў сяле Вершынкі Казанскай губерні. Добра дзядзька Валодзя ўспамінае тыя часы. Прынялі іх там ветліва, давалі кватэры і харчы, бо былі яны бежанцамі і ўцякалі ад немцаў, якіх тады святары называлі аднавокімі і казалі, што ўсіх забіваюць. У Расеі малы Валодзя пайшоў у школу і там закончыў два класы. Калі ў 1921 годзе памёр ягоны бацька Кузьма, Валодзя астаўся толькі з маці. Рэшта сям'і разышлася па ўсёй Расеі. Калі ўжо ў Расеі дапякла рэвалюцыя, яны рашылі вяртацца на радзіму, у свае Астраўкі. У гэтым жа 1921 годзе захварэла маці і папала ў бальніцу ў мясцовасці Матодышы, дзе і памерла. Валодзя 9-гадовым хлапчуком трапіў у сірацінец, спачатку ў Баранавічы, потым у Варшаву, Чанстахову і Мачкі. У польскіх сірацінцах пачаў навуку з першага класа і яе вельмі старанна прадужаў. Калі з Мачкаў зноў перавялі яго ў Чанстахову ў 1926 годзе, Валодзя пачаў навуку рамяства на кошты Кялецкага ваяводства і закончыў навуку ў 1931 годзе з дыпломам чаляднікa сталярства. Тады задумаў вярнуцца на Заблудаўшчыну, у свае родныя Астраўкі, дзе прыняў яго дзядзька Гаўрыла. Давялося Валодзю кароў пасвіць па чужых людзях. Ягоны дзядзька трымаў яго на сваёй гаспадарцы, але за работу грошай не даваў, а толькі тлумачыў яму, што грошы складае на „чорную гадзіну".

У 1938 годзе Валодзя пакідае родныя Астраўкі, каб дзе-небудзь прызарабіць лепей як у свайго дзядзькі і затрымліваецца ў гаспадара Яна Пастэрнака ў Рабчыне, што ў павеце Востраў-Велькапольскі, а потым у столяра Тэафіля Даражальскага. Там яму было добра і можна было астацца, бо любіў ён сваю прафесію. Але неспакойны час прымусіў яго ізноў вярнуцца ў родныя Астраўкі.

— Польска-нямецкая вайна 1939 года застала мяне ў Астраўках, — успамінае Уладзімір Рамановіч. — Неўзабаве прыйшлі бальшавікі і зрабілі з немцамі чацвёрты падзел Польшчы. У гэтым часе дзядзька Гаўрыла заплаціў мне грошы, якія былі прызначаны на „чорную гадзіну", але ў нас ужо залатоўкі не хадзілі і я быў вымушаны паехаць у Варшаву і там нешта купіць, а гэта ўжо тады была заграніца. Ад'язджаючы меў я 16 рублёў, а білет на поезд з Беластока ў Чыжэва каштаваў 3,6 рубля. Далей трэба было ісці пяшком і там шукаць праваднікa, каб правёў праз граніцу. Праўда, купіў я тады сёе-тое ў Варшаве. Такіх як я там было многа. Калі вярталіся мы з Варшавы, у Малкіні праверылі нас немцы і перапаравілі цераз граніцу. Зімна, снег і вецер, а я і яшчэ адна дзяўчына з Беластока ідзем па рэйках у сваім напрамку. Пасля некалькіх гадзін зайшлі мы да дарожнага стаража папрасіць пераначаваць. У мяне ў кішэні застаўся толькі 1 рубель, за які можна было купіць білет да Шэпятова, а там ужо паехаў бы без білета, абы неяк дабрацца ў Беласток, а адтуль ужо ў родныя Астраўкі можна пайсці пяшком. Зваротная дарога аказалася вельмі доўгай і вярнуўся я толькі ў лістападзе 1945 года.



У мясцовасці Лапы мяне арыштавалі і пасадзілі ў беластоцкую турму 20 студзеня 1940 года. Потым мяне перавезлі ў Брэст і там адчыталі „приговор" — 3 гады турэмнага зняволення. У лютым 1941 года перавезлі мяне ў лагер Ерцава Архангельскай вобласці. Пасля польска-савецкага дагавора мяне як польскага грамадзяніна адпусцілі з лагера. 20 кастрычніка 1941 года далі мне 60 рублёў і білет да станцыі Яр і пасведчанне: „На основании указа Президиума Верховного Совета Романович Владимир Кузьмич амнистируется как польский гражданин и имеет право проживать по всей территории СССР за исключением городов первой и второй категории в военное время". Пасведчанне мела трохмесячную сапраўднасць. Гэта абазначала, што мяне цяпер чакае рознае. Дастаць білет на цягнік было вельмі цяжка і для гэтага трэба было мець адпаведныя дакументы, а таксама спраўку з бані, што няма вошай. Прыходзілася па-рознаму, часамі 4 сутак нічога не еў, а вошай карміць мусіў, бо яны па мне як мурашкі ў мурашніку бегалі. Так і бадзяўся я ад калгаса да калгаса, каб зачапіцца за работу хаця б за адны харчы. У адным калгасе спаткаў мяне міліцыянер і стаў правяраць дакументы. Аказалася, што мне ізноў пагражае 10 гадоў турмы за тое, што не яўляюся ў ваенкамат. Там яшчэ злавілі аднаго жыхара Лапаў і павезлі нас у ваенкамат у Цішлах. Мяне прызначылі ў 1550 Рабочы батальён у горадзе Уфе. Па стане здароўя мяне адпусцілі ў сакавіку 1942 года. „Ну, — думаю, — цяпер вясна, лягчэй знайсці працу". І такім чынам у калгасе пасвіў я кароў, авечак і коз. Хутка папраўілася маё здароўе. Калі другі раз мяне выклікалі ў ваенкамат, дык прызвалі ў баявыя часці. Тады пачалася мая баявая вандроўка з Чырвонай Арміяй. Прайшоў я ад Кіева да Дрэздэна з першым украінскім фронтам. Дэмабілізавалі мяне ў лістападзе 1945 года і толькі тады я вярнуўся ў свае родныя Астраўкі. Вярнуўся як батрак на пустыню пасля 5-гадовага блукання па лагерах, а потым па сцежках ваенных дарог.

Не меў дзядзька Валодзя ў што пераапрануцца, з чаго жыць. Затрымаўся ў свайго швагра на калёніі Астраўкі і там адбыў першую сустрэчу з бандай „Янэчка", якая ноччу пастукала ў дзверы хаты ягонага швагра. На пытанне хто там, пачуўся адказ: „Otwierać, milicja". Калі ім адчынілі дзверы, на парозе стаяў высокі, стройны чалавек з аўтаматам на грудзях. Убачыўшы дзядзьку Валодзю ў савецкай уніформе закрычаў: „Edek, chodź tutaj, mamy Ruska" і загадаў: „Ręce do góry". Валодзя рук не падняў. Швагер выскачыў з пасцелі і сказаў: „Што табе, Валодзя, цяжка рукі падняць? Ты ж наш чалавек". Банда забірала ўсё ад сялян — ад саланіны да жаночых майтак. І так дзядзька Валодзя пачаў вайну на другім фронце.

Яшчэ некалькі разоў бандыты заходзілі ў хату, гаварылі яму ісці з імі, а калі адмовіўся, тады яму параілі зняць савецкія медалі з грудзей і пакінуць хадзіць ва ўніформе байца Чырвонай Арміі. Валодзі было не да таго, яму трэба было шукаць працу, каб дзе-небудзь абсталявацца. Яму параілі стаць настаўнікам. Прашэнне прыняў інспектар асветы Шчэпан Засада і прызначыў яго на пасаду настаўніка ў сваёй вёсцы Астраўкі. Калі пачалі ствараць калгасы, яго перанеслі ў суседнюю школу, у Алексічы. Тады пачалася бяда. У Астраўках сталі арганізаваць калгас, а настаўнік Валодзя паставіўся да гэтага адмоўна і параіў свайму швагру не ўступаць туды. Настаўніка Уладзіміра Рамановіча палічылі чырвоным кулаком, буржуем. Пачаліся клопаты ў школе. Судзілі яго як ворага народнай улады, а суддзёю праўдападобна быў адзін з банды „Янэчка". Не вытрымаў Валодзя тых здзекаў і прылічэння да ворагаў народнай улады і аддаў свой партыйны білет. Гэтая халодная вайна працягвалася да 1976 года. Пракурор перастаў тады падазраваць дзядзьку Валодзю ў варожасці да народнай улады і загадаў як-небудзь адасобіць яго ад настаўнікаў. Куратар заявіў яму, што адашле яго на ранейшую пенсію, толькі каб ужо больш нікуды ён не пісаў.

У 1981 годзе спадара Уладзіміра Рамановіча ачысцілі ад усіх грахоў, рэабілітавалі. Пайшоў ён на заслужаны адпачынак і быў узнагароджаны Krzyżem Kawalerskim Orderu Odrodzenia Polski.

Спадар Уладзімір Рамановіч мае падзякі ад Сталіна за змаганне з фашыстамі, медалі за II сусветную вайну і вельмі імі ганарыцца. Цяпер пражывае ён пры дачцэ.

**Запісаў Мікалай Лук'янюк**

# Велікодныя разважанні

„Христос Воскрес, Воскресение Твое Христе Спасе, ангелы поют на небеси". Дзякуй табе, Божа, што даў нам магчымасць яшчэ раз пачуць гэтыя словы. Вялікая радасць запанавала ў сэрцах нашых. Уваскрос Богачалавек, а з ім усё чалавецтва. Дачакаліся Вялікага Дня — Вялікадня, як у народзе гавораць, якога кожны чалавек штогод чакае. Усё прамінае, час безупынна бяжыць, зацірае сляды нашага жыцця. Год за годам праходзіць, блізкія, сваякі, знаёмыя ўсе найдаражэйшыя ад нас адыходзяць. Аднак пра свята Хрыстовае — Вялікдзень памятаюць усе і рыхтуюцца да яго, і сустракаюць усе — людзі і прырода. Людзі цяпер інакш сустракаюць свята. Мала хто прытрымоўваецца посту — старэйшыя кажуць, што адвыклі, а маладыя, відаць, не прывыклі. Многа звычак яшчэ асталося з папярэдняй эпохі. Дзякуй Богу, што тады не ўдалося сцерці рэлігіі з памяці людзей. Доказам гэтаму хай будуць весткі з-за ўсходняй граніцы. А там бальшавікі здзекаваліся над рэлігіяй, аднак памяці аб Вялікадні не заглушылі. Амаль ужо дзве тысячы гадоў людзі ў гэты дзень вітаюцца словамі „Хрыстос Уваскрос" і рэлігія з кожным днём мацней уваскрасае. Праходзяць і забываюцца абычаі і традыцыя, а свята астаецца ў памяці людзей.

Даўней людзі інакш рыхтаваліся да свята. Прытрымоўваліся посту, часцей наведвалі царкву, чакалі свята са страхам Божым. Думалі, каб менш грашыць, дапамагалі другім, выконвалі запаведзі Гасподнія. Чакалі свята па-божаму і яно тады станавілася больш блізкім сэрцу.

Не толькі чалавек чакае свята, прырода таксама... Усю зіму ўсё спала, было нежывое. Пасля Вялікадня прырода ажывае, наступае вясна, якая паказвае сваю прыгажосць і красу, і хоча ёю пацешыць нас грэшных.

Таксама і чалавек пасля саракадзённага посту быццам бы пачынае новае




жыццё, калі разгавеецца за святочным сталом, прыйшоўшы з царквы, духова ўваскрасае, набірае новай энергіі да далейшай працы і новых жыццёвых турбот. Гэты дзень ссылае на нас радасць і шчасце на далейшы шлях. Гэта свята сямейнае — збіраюцца блізкія, знаёмыя і свае за святочным сталом, яднаюцца яшчэ мацней, успамінаюць адышоўшых ад нас там, адкуль няма звароту. І паводле старых абычаяў, не забываюць аб продках ды за іх чарку кульнуць.

А часам бывае інакш. Некаторым самім прыходзіцца Вялікдзень святкаваць. Найбліжэйшых няма, ужо адышлі. Запрошаныя суседзі чамусьці не наведаліся, дзеткі не прыехалі. Хата пустая, мала нас за святочным сталом. І стол як бы не наш, вялікім стаў. А можа госці зарана ад яго адышлі? Відаць, Гасподняя воля над гэтым была. І Усявышняга просім, каб не быў гэта апошні год у нашым жыцці.

А праз тыдзень заглянем на могільнік у правадную нядзельку. Людзей тут поўна. Прыйшлі наведаць адышоўшых ад нас. Каля магілак прысядзем і думкамі кінем назад у жыццё. Успомнім пражытае і падумаем, што і нас усё гэта чакае, як тых, што пад крыжам ляжаць. І тут людзі таксама вітаюцца словамі „Хрыстос Уваскрос", прыпамінаюць, што калі прыйдзецца пакінуць гэты свет, усе з'явяцца перад Уваскрэслым Хрыстом.

**Грыша Мароз**

# Палячу думкамі на Беласточчыну

[1 ☞ працяг]
***мінае, што рыхтаваў Вам месца ў рэдакцыі „Нівы", тым часам Вы абралі духоўны шлях. Што прыязло Вас да гэтага рашэння?***

— А я і цяпер настаўнічаю. Выкладаю Праваслаўе ў Лодзінскім універсітэце, на гэту тэму ідуць таксама размовы з Вроцлавам. Нічога сенсацыйнага не здарылася ў маім жыцці, я з дзіцячых гадоў марыў аб сумесным духоўным і настаўніцкім жыццёвым шляху (пэўна, як усе, аднойчы хацеў быць і машыністам на чыгунцы, і аптэкарам, і танцорам, і артыстам кіно і тэатра — сюды амаль што і не папаў: здаў усе экзамены, але чужаземцаў не прымалі; гэта было ў Мінску). Пачатковая школа, педагагічны ліцэй, універсітэт у Мінску, настаўніцтва ў ліцэях, прапановы быць выкладчыкам у Варшаўскай праваслаўнай семінарыі, багаслоўе ў Акадэміі, спалучэнне любімага, дарагога, і я ў Варшаве, амаль на 20 гадоў... Пісаць пачаў ва універсітэце на беларускай, рускай, польскай мовах, адразу ж і друкаваўся. Проза, ніколі не пісаў вершаў. Быў час, калі я быў папулярным не толькі ў „Ніве". Рэдактарская і аўтарская дзейнасць у царкоўным варшаўскім выдавецтве амаль не пакідала часу для мастацкай літаратуры. Але — ёсць запасы і сёння. Мо зноў калі адважымся, „Ніва" і я, паказаць іх свету?.. Пра намер Спадара Георгія Валкавыцкага, тагачаснага рэдактара „Нівы" я не ведаў... Міла гэта сёння пачуць!..

***— Якую дарогу ў службе Царкве Вы прайшлі?***

— Мой царкоўны шлях? Я заўсёды быў веруючым, з малых лет пры царкве, я ўжо ў 10 год чытаў у Нараўцы па-славянску; сябры-студэнты — не толькі польскія — ведалі (не ўсе), што я малюся ў царкве, думаю — адпаведныя ўлады таксама, але ніхто ніколі не сказаў мне благога слова. Праца ў ліцэях, пасля вяртання на Радзіму, я чытаю і спяваю ў цэрквах; выкладчык у Семінарыі, вучоба ў Хрысціянскай багаслоўскай акадэміі з чарговым магістрам па гісторыі Царквы, а потым дактарат пра рэлігійна-сацыяльныя праблемы ў Дастаеўскага. З 1970 па восень 1981 — я дырэктар Канцылярыі Мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Яго Блажэнства Мітрапаліта Васілія; прыняў манаства, быў кіраўніком — не пакідаючы працы ў Семінарыі — выдавецкага і замежнага аддзелаў Мітраполіі. Напісаў дзесяткі багаслоўскіх — і не толькі — артыкулаў на розных мовах у праваслаўныя і іншаканфесійныя выданні, аб'ездзіў паўсвету, прымаючы ўдзел у праваслаўных і экуменічных канферэнцыях. Восенню 1979 года быў высвячаны на Епіскапа Люблінскага, вікарыя Яго Блажэнства. Тады я аб'ездзіў усю паўднёвую Беласточчыну, пасвяціў нямала святароў і новых цэркваў, быў я сваім і на Люблінщчыне, і на Холмшчыне. З восені 1981 года я ў Лодзінска-Познаньскай Епархіі, з 1993 года — у сане архіепіскапа.

***— Чаго б Вы, Уладыка, пажадалі сваім суродзічам на Беласточчыне з нагоды Велікодных свят?***

— Пасха Гасподня, Вялікдзень. У Святую Поўнач з 26 на 27 красавіка, маліўшыся ў маім цудоўна прыгожым лодзінскім Свята-Аляксандра-Неўскім саборы, я палячу думкамі да маіх Дарагіх Бацькоў, Суродзічаў, да ўсіх Вас, Дарагія Працаўнікі „Нівы", да Вас усіх жывучых на Беласточчыне. I памалюся, і пашлю Вам усім думкі мае найлепшыя і пажаданні: здароўя, спакою душэўнага, сямейнага, хрысціянскага, радасці, шчасця, поспехаў — на Пасху Святую, Гасподнюю, Хрыстову, на ўсякі дзень, на ўсякі час!

Хрыстос Васкрэсе, Дарагія Мае!
Хрыстос Уваскрос, Родны мой Кут!
Міру Табе і спакою, Зямля мая Родная, Беласточчына!

**Інтэрв'ю ўзяў Мікола Ваўранюк**

# Пісанкі, крашанкі, маляванкі...

Традыцыйным дэкаратыўным элементам велікоднага стала з'яўляюцца размаляваныя рознымі ўзорамі курыныя яйкі. Згадкі пра пісанкі можна знайсці ўжо ў творах старажытных пісьменнікаў. Даўней яйкі фарбавалі натуральнымі фарбавальнікамі — адварамі траў і кары дрэў. У нашых вёсках у якасці фарбавальніка прымяняецца адвар шалупіння цыбулі, які надае шкарлупіне карычневы колер. Цяпер для фарбавання велікодных яек пераважна выкарыстоўваюцца штучныя фарбавальнікі.

З пісанкамі звязаны многія легенды. Грэчаскае паданне з X стагоддзя паведамляе, што звычай маляваць яйкі паходзіць ад Марыі Магдаліны. Пасля смерці Хрыста, калі Марыя Магдаліна сядзела над магілай і смуткавала, з'явіўся ёй ангел, які сказаў: „Не плач, Марыя! Хрыстос уваскрос!" Узрадаваная Марыя пабегла дадому і са здзіўленнем заўважыла, што ўсе яйкі, якія ляжалі ў глінянай місачцы, набылі чырвоны колер. Яна вынесла іх на дарогу і падаравала праходзячым апосталам ды расказала ім радасную навіну. У гэты момант яйкі перамяніліся ў птушкі і выпырхнулі з рук апосталаў у неба.


*Юліта Леўчук.*

Успрынялі яны гэта як знак, што пасля смерці прыходзіць уваскрэсенне і новае жыццё.

Яйка здавён-даўна лічыцца сімвалам пачатку новага жыцця і ў такім характары (а не толькі смачнай стравы) красуецца яно на велікодным стале ў выглядзе пісанкі. Калісьці размалёўванне яек было сапраўдным мастацтвам, якім у час Вялікага тыдня займаліся выключна дзяўчаты і маладыя замужнія жанчыны. Мужчыны лічылі гэты занятак жаночым, затое ў святы гулялі каляровымі яйкамі ў „выбіткі" або ва „ўдатку".

Назва святочнага яйка залежыць ад спосабу яго размалёўкі. **Крашанка** была суцэльна пафарбаваная на чырвоны колер (ад *краса* — чырвань), а калісьці дзеля гэтага прымяняўся адвар лічынак чарвяцоў. **Маляванкі** вылучаліся рознымі колерамі, напрыклад, зялёныя — фарбаваліся ў адвары амялы, маладога жыта або асінавых пупышак; фіялетавыя — у адвары кары вольхі, чорнага клёну; жоўтыя — у кары дзікай яблыні. **Скробанкі** — гэта маляванкі або крашанкі з прадрапаным вострай прыладай белым контурным узорам. **Пісанкі** атрымоўваліся ў выніку васкавання, калі на яйка перад фарбаваннем наносіліся спецыяльнай бляшанай леечкай узоры з воску. **Наклейкі-маляванкі** рабілі такім чынам, што на суцэльна каляровае яйка наклейвалі ўзоры са стрыжня сітняку, засушанага лісця, пялёсткаў і іншага матэрыялу.

Сёння мала хто займаецца вырабам пісанак традыцыйным спосабам. Прасцей суцэльна пафарбаваць яйкі ў штучных фарбавальніках, якія ў перадвелікодны перыяд прапануюцца шматлікімі крамамі. І хаця велікодныя яйкі атрымоўваюцца не так прыгожыя як калісьці, малююць і красяць іх усе і ўсюды.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

Якія мы людзі

# Уваскрэсла

Заўсёды павольная і памяркоўная цётка Аўдоцця на гэты раз паспяшалася.

Жартачкі, пралежаць два месяцы ў мясцовай бальніцы, а ў баку як калола, так і коле! Цётка не ведала нават, што гэта: ныркі ці пячонка, а лекары не ведалі тым больш. Балела вось і ўсё. Ну, рак, няйначай! — зрабіла вывад сям'я.

На душы ў цёткі было невясёла, з тыповай вясковай пакорлівасцю чакала яна, што будзе паміраць. І хаця старая не баялася смерці, ды нават падыходзіла да гэтай чалавечай з'явы ўраўнаважана, па-філасофску: маўляў, нікуды не падзенешся! — шкада ёй было ўцякаючага жыцця.

Лежачы столькі, усё перадумала. Успамінала сваё жыццё — працавітае, але не гаротнае. Як жывога бачыла свайго добрага мужа, калі так спяваў ёй, толькі ёй сваім цудоўным голасам, седзячы на бярвеннях ля хаты, што акуналася вясною ў белы вішнёвы цвет. Успамінала, як радзіла кожнае сваё дзіцятка — дачушку і двух сынкоў, радасць іхняга жыцця. У галаву прыходзілі ёй адно мілыя рэчы. Не, нічога кепскага не ўспамінала яна нават і тады, калі ўжо да яе прывезлі бацюшку. Усё ў сярэдзіне балела, гарэла агнём, цяжка было праглынуць лыжку супу. Але калі не ела, у галаве было сонечна і зелена, быццам бы не да смерці ішло, а да вяселля.

Блукаючы думкамі па сваіх родных загонах, цётка каторагась дня аж войкнула. Холадам прашыла яе думка, што вось яна памірае, а гаспадарка і яе — няхай сабе і скромныя — ашчаднасці ўсяго жыцця яшчэ не падзелены паміж дзецьмі і ўнукамі. Што будзе, калі яна памрэ, а дзеці пачнуць дзяліцца самі? Перасварацца яшчэ, крый Божа.

Вялікае сэрца цёткі трэба было б падзяліць на часцінкі, каб даць усім дзецям і ўнукам па кавалку. Усе яны выкачаліся на яе руках, кожнаму яна аддала крышынку сваёй ласкі. А цяпер вось трэба было б падмацаваць тую ласку нечым і канкрэтным.

З бальніцы наказала цётка, каб у нядзелю прыехалі да яе ўсе дзеці. Склікала іх, а сама да нядзелі ўсё думала, як падзяліць тое, што мела, каб усё па-Божаму і па-людску было.

Мела небагата, але зямля была добрая, хата на вёсцы вялікая і моцная, салідныя, годныя яшчэ на многа гадоў гаспадарчыя будынкі. Ды і ў хаце дзеленька было што падзяліць.

Дачка сказала адразу: „Мне, мамачка, зямлі не трэба. Вы ж ведаеце, сваю ледзь дамо рады абрабіць". Ну, дык табе, дзіця будуць грошы, сказала цётка. Можа дзецям сваім нешта купіш. Грошы ў печы, а крыху і пад сталом — сама ў хаце знойдзеш! І вазьмі ты яшчэ там *аброначкі* дзве, — цётка дакладна растлумачыла, дзе схавана яе золата. Бо там яшчэ ж і залаты гадзіннік, што ад рускіх купіла, але яго не бяры. Ён няхай будзе майму першаму ўнучку, найстарэйшаму, любімаму сынаву сыночку.

Што датычыць хаты, зямлі і гаспадарчых будынкаў, дык старая цвёрда вырашыла: тым гараджанам з Беластока, яе сынам, усё гэта найлепш прыгадзіцца. Няхай сабе маюць і яны тую „ранчу", каб было куды летам прыехаць, з дзецьмі-ўнукамі іхнімі адпачыць. А заадно можна будзе і ў зямлі пакорпацца, пасеяць нешта вясною, а восенню плёны сабраць, ды і фруктаў з саду ўсім дзецям хапіла б. Балазе ад Беластока да іх роднай вёскі было рукой падаць.

Думала старая Аўдоцця, што робіць як наймудрэй, гэтак дзяцей абдзяляючы. Але сыны патрабавалі ад яе канкрэтаў, каб было ўсё на паперцы, значыцца, каб распісала, што і колькі каму і каб усё было афармлена праз суд.

Бедная старэча такога абароту спраў не спадзявалася. Сыны мелі прэтэнзіі да дачкі, што заграбла ўсе грошы (мо было там на паўмалоха), сварыліся між сабою за кожны кавалачак зямлі, за кожную будыніну. Кожны з іх матываваў, што і ў яго ёсць дзеці і ўнукі. Урэшце прыйшлі да нейкай згоды і прынеслі маці нейкія паперы, каб падпісала, што яна і зрабіла сваёй дрыжачай рукой.

Калі ўжо пападпісвала гэтыя паперкі, цётка Аўдоцця неяк супакоілася, прыціхла, маўляў, цяпер можна ўжо і паміраць. Думала, што ўдзячныя дзеці не будуць ад яе і адыходзіць. А тут цішыня настала, быццам была яна ўжо ў труне. Рэдка калі заглянуў да яе нехта. Усе былі нейкія незадаволеныя, кожны лічыў, што яму належыцца найбольш. Калі часам адзін з другім тут сустрэліся, дык адразу першы выходзіў.

Абрыдла ўжо Аўдоцці ляжаць у гэтай бальніцы. А што тут? Не жыву і не паміраю! І ўспомніла яна, што мае сваячку-лекарку ў Беластоку. Мо там лепш палечаць? — памеркавала старая. На вясковы розум, здалося ёй, што мо не ўсё яшчэ страчана. Папрасіла, каб яе лекар пазваніў да гэтай сваячкі і выклікаў яе ў бальніцу.

Ну, і як жа, прыехала яна, аформіла „хуткую дапамогу" і перавезла паміраючую Аўдоццю ў Беласток. Пралежала яна там месяц і ... устала ў свае восемдзесят гадоў на ногі. Так акрыяла, што людзі дзіву дзівіліся, як у тым Беластоку добра лечаць.

Калі цётку выпісвалі з бальніцы, сваячка-лекарка шапнула ёй на вуха, што вылечылі яе... дыетай і вітамінамі.

У гэтай сваячкі, дачкі дваюраднай сястры Аўдоцці, была вялікая віла, і яна ўзяла старую да сябе. Балазе жылі яны ўдваіх з мужам, а дзяцей не мелі, дык маглі рабіць у сваёй хаце, што хацелі. Аўдоцці вяртацца ўжо не было куды.

* * *

Паспяшалася старая. Не думала, што ўваскрэсне.

**Ада Чачуга**

# Позірк у мінулае

**2 мая**

373 г. — памёр св. Афанасій Вялікі, адзін з айцоў Царквы. Нарадзіўся ў Александрыі і там атрымаў багаслоўскую адукацыю. Хутка стаў архідыяканам і ў гэтым сане ўдзельнічаў у першым усяленскім саборы, дзе выступаў супраць арыянства. Стаўшы александрыйскім архіепіскапам, ён змагаўся супраць вучэння Арыя, які менавіта адсюль і выводзіўся. Каля 20-ці гадоў прыйшлося Афанасію правесці ў ссылках і зняволенні ў ходзе гэтага змагання, адкуль не пераставаў пісаць пасланні сваім вернікам.

907 г. — памёр балгарскі князь Барыс, які прыняў ад Візантыі хрысціянства 25 мая 866 года. Візантыйскія імператар Міхаіл III і патрыярх Фоцій не згадзіліся аднак на заснаванне незалежнага балгарскага патрыярхату. Пазней Барыс звярнуўся да рымскага папы з просьбай заснаваць у Балгарыі незалежную царкву заходняга абраду, аднак папа прыслаў лацінскіх місіянераў, але не стварыў незалежнага касцёла. У 870 г. Барыс дабіўся ў Візантыі прызнання шырокай аўтаноміі сваёй царкве, а сабе — царскага звання. У 889 г. цар Барыс адказаўся ад трону, перадаючы яго свайму старэйшаму сыну Уладзіміру, а сам падаўся ў манастыр. Аднак Уладзімір пачаў вяртаць старыя язычаскія парадкі і калі пачаліся ганенні на хрысціян, Барыс вярнуўся ў сталіцу, зверг з трону Уладзіміра і загадаў асляпіць яго, а на трон паставіў малодшага сына Сімяона. Назначэнне гэта было ў 893 г. зацверджана усебалгарскім сінодам, скліканым у Праславі. Пасля сінода ў Праслаўль з Пліскі перанесена і царскую сталіцу.

1567 г. — памёр дуброўніцкі пісьменнік Марын Држыч, адзін з пачынальнікаў харвацкай літаратуры. На далмацкае пабярэжжа славяне нахлынулі ў 615 г., прымушаючы папярэдніх жыхароў шукаць сабе новага месца. У далмацкіх гарадах прысутнічала лацінская і візантыйская культуры, навакольле гарадоў было славянскае. У XIV ст. і гарады пачалі прымаць славянскі характар, нягледзячы на пагардлівыя адносіны да гэтага з боку некаторых патрыцыяў; напр. дуброўніцкі лацінскі паэт XV—XVI ст. Ілья Црыевіч называў славянскую мову ілірскай траскатнёю. Славянская мова пачала прабівацца і ў літаратуру; у XV ст. пісалі на ёй Шышка Менчэціч і Джорэ Држыч, а ў наступным Ганібал Луціч, Пётр Гектаровіч, Пётр Зараніч і Маўра Ветрановіч. Найбольш вядомым з іх з'яўляецца народжаны ў 1505 г. Марын Држыч — святар, драматург, паэт, падарожнік і апальны бізнесмен ды палітычны інтрыган, які ў Фларэнцыі і Венецыі дамагаўся звяржэння дуброўніцкіх улад — сваіх крэдытораў.

1915 г. — аўстрыйска-нямецкія войскі ў ходзе I сусветнай вайны перайшлі ў наступленне на ўсходнім фронце: на поўдні занялі яны 3 чэрвеня Пярэмышль, а 22 — Львоў. На поўначы 12-я нямецкая армія 5 жніўня заняла Варшаву, 25 — Брэст, тыдзень пазней — Гродна, а 18 верасня — Вільню. Восеньскія дажджы размылі дарогі і аслабелая расейская армія змагла затрымаць нямецкае наступленне на лініі Рыга—Усходнія Карпаты. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Красавік

Красавік — ласкавы месяц,
Ўсё пахне вясною,
Зацвітаюць кветкі
Людзі ідуць у поле.
Сонца пайшло высока —
Зямлю абаграває,
Лугі зеленеюць
І сад расцвітае.
Пойдзем на прагулку,
Па лесе пахадзіці,
Жывіцаю там пахне,
Калі сядзеш адпачыці.
Шуміць наш лес вясёлы
І радасць прадвяшчае.
Аж у грудзях лягчэе,
Ад нас хваробу забірае.
Шануйце людзі лес,
Яго не забруджайце,
Нам лёгкія ён лечыць.
Аб гэтым памятайце.

**Мікалай Лук'янюк**

## Вершы і „Ніва"

Пішу вершы, хаця я не паэт
І мінула ўжо многа лет
Калі пачаў вершы пісаць
І родную паэзію лепш пазнаваць.
Паэзіі навучыцца немагчыма:
Возьмем для прыкладу
Горкага Максіма,
Які вершаў не пісаў,
Але рускую класіку паднімаў
Сваёй жывой прозай
Якая мо золата дарожай;
Бараніў прыгнечаны люд
І шанаваў яго гісторыю і труд.
Маем і мы слаўных майстроў слова
І пачэсна гучыць беларуская мова.
Цэнтрам яе з'яўляецца
родная „Ніва" —
Працавітая, сумленная і ніколі
не лянівая.
З яе старонак я навучыўся пісаць
І свой люд шанаваць.
Яна — наша энцыклапедыя і гід,
З яе ўсяго даведваемся мы.
Хто „Ніву чытае —
Той многа тайнаў і шчасця пазнае,
Свайго народа ён не здрадзіць
І з нападкамі д'ябла рашуча
парадзіць.
Шлю ёй самы нізкі і шчыры паклон;
„Ніва" — наша духовая вопратка —
лён.
Дык няхай расце гэты родны лянок,
Які заслужыў на залаты вянок.

**Мікалай Панфілюк**

**Хубэрт Даманьскі**

* * *

У птастве над маёй галавой
Распасцерлася разлука,
Якую на развітанне
Я падкарміў хлебам.

* * *

*У вачах яна насіла*
*стомленасць ужо будучыні.*

Сярод спічастага дажджу —
я пачуў цішу,
Аголеную і безабаронную,
Са сціснутымі далонямі ля вуснаў,
Распранутую патокам слёз,
Які гвалтам агаляў яе цела.

... Чакала жанчына,
Уначы не жаданая,
Стомленая барацьбой,
Соннага неба поўная ў сваіх руках.
Я глянуў —
Нясмеласць, папрасіў прабачэння,
няхай пачакае,
Кахаю цябе — вырванае —
з галізны
маёй патаемнай.

Звонка рассыпалася
У колерах вясёлкі рэха
І вярнулася ранкам
Абвяшчаючы — сённяшняга
кахання
канец.

*Пераклала з польскай*
*Ялена Расолка*

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Не раз пісаў я табе. Трапна ты мне сны адгадваў. Я ўжо старэйшы чалавек. Дзеці жанатыя, ёсць і ўнукі. Пазваніла мне дачка і кажа, што прысніўся ёй дзіўны сон. У яе кватэры было поўна дзяцей球рознага ўзросту. Я ёй кажу, гэта што такое? Мне ў тую ноч таксама дзеці прысніліся, было іх трое ў маёй кватэры.

Астроне, што абазначаюць гэтыя сны?

**Сцяпан**

І мне, Астроне, прысніліся дзеці. Спачатку я трымала на руках тоўсценькае дзіцятка, дзяўчынку. Я прытуляла яе да сябе, і мне было вельмі прыемна. А пасля бачу, што ў нейкім самаходзе сядзіць мая дачка. Спераду сядзіць такое ж дзіцятка, як тое, што я трымала на руках, яно большанькае, а дачка сядзіць на заднім сядзенні і трымае на руках другое дзіця, таксама тоўсценькае, але крыху меншае. І ўсё. Добра гэта ці кепска?

**Анеля**

Даражэнькія Анеля і Сцяпан! Сны вашыя вельмі падобныя і сімвалічныя. Дзеці — сімвал нараджэння, новага жыцця — заўсёды прадвяшчаюць добрыя падзеі. Абазначаюць, што ў вашым жыцці (прынамсі ў бліжэйшым часе) ўсё будзе добра, а справы, якія вісяць над галавой, будуць завершаны паспяхова. Тым больш, што дзеткі гэтыя былі прыгожыя.

Ёсць з гэтага правіла, аднак, выключэнне. Гэта тады, калі сняцца нейкія хворыя, недалужныя дзеці, дзеці-калекі. Тады дабра не спадзявайся! Аднак жа такія дзеці сняцца людзям значна радзей.

**Астрон**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 2. моднік, 4. ножная машына для язды, 6. лёгкі слабы парыў, 7. кубінскі танец, 9. адзінка працы, 11. праяўленне прымет далёкіх продкаў, 12. рака ў Бразіліі, на ёй адзін з найбольшых у свеце рачных астравоў Бананал, 13. мяшок для лоўлі рыбы, 15. на яхце, 17. дрыгва, 18. раздзел геаметрыі, 19. ганенне, насілле.

**Вертыкальна:** 1. спецыяліст, 2. егіпецкі селянін, 3. прылада для сячэння, 4. кружэнне вады ў прыродзе, 5. лжывыя абяцанкі, 6. вялікае навадненне, 8. горад у Турцыі, 9. нямецкая рака, ўліваецца ў Паўночнае мора, 10. крук, зачэп, 14. аптычная прылада на носе, 16. паміж Гданьскам і Гдыняй, 17. узгорак.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 10 н-ра:**

**Гарызантальна:** Сафокл, калапс, аскома, рака, абоз, прапраўнук, апал, Іран, аркада, чарада, марэна.

**Вертыкальна:** сатыра, клас, Кама, псіхоз, контратака, капрал, Абукір, апанча, ангіна, арда, дама.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Міхалу Байко** з Беластока.

# Адкрытае пісьмо магістру Гайдуку Мікалаю

**В. Паважаны Спадар!**

Віншую Вас з атрыманнем узнагароды імя кн. К. Астрожскага і жадаю Вам усяго найлепшага ў жыцці і творчасці!

Прачытаў я ў „Przeglądzie Prawosławnym" (№ 4, красавік, 1977 г.), інтэрв'ю з вамі Болтрыка М.

Прашу Вас і Галоўнага рэдактара „Нівы" д-ра Яўгена Міронавіча зрабіць пераклад на беларускую мову (ў цэласці) і надрукаваць у „Ніве".

Вельмі важныя гістарычныя даследаванні Вашы (стар. 13). Яны пацвярджаюць усё тое, што напісана на каменных помніках — на крывавых слядах падзей 1863—64 гг. Дзякую за гістарычную праўдзівасць бытнасці беларускага народа! Згаджаецца з тым, што напісана ў кніжцы „Топография дорог и памятников" (на стар. 23), адносна мучыцеля беларускага народа і праваслаўных святароў — К. К. з драконавага логава Мастаўлян.

**Рудкоўскі Барыслаў Ф.**

**Ад рэдактара:**

Інтэрв'ю М. Болтрыка з М. Гайдуком змешчанае ў „Przeglądzie Prawosławnym" з'яўляецца ўласнасцю таго ж „Przeglądu", якога рэдакцыя працуе на славу свае фірмы. Мы не маем права карыстацца вынікамі чужой працы. Прытым Мікола Гайдук пастаянна змяшчае свае гістарычныя развааженні на старонках нашага тыднёвіка і яго творчасць добра вядомая чытачам „Нівы".




„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраковіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Нiўка




Мал. М. ЛЁЗІНАЙ

## Пародыі

### Сяўба

*Курапатак пасеяла восень*
*на полі бульбяным...*

***Алесь Барскі***

Гэта восень, нібыта вясна,
Засявае насенне яна:
Каля лесу, на полі шырокім,
Прараслі яравыя сарокі.
Уздоўж дарогі, з абодвух бакоў,
Пасадзіла чарнявых шпакоў.
І курэй засявала ля вёскі —
Моцна пеўняў чуваць адгалоскі,
І буслоў, і крыклівых варон
Насадзіла шырокі загон.
Жураўлі толькі дзесьці галосяць:
Ля балота пасеяць іх просяць.
А на полі бульбяным ля дачы
Узышлі ўжо азімыя качкі.
Восень шчодрая ветрам веяла...
Вераб'ёў толькі вось не пасеяла.

**Сяргей Чыгрын**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Мішка два разы нешчасліва ажаніўся. Першым разам жонка ад яго ўцякла...

— А другім?

— Асталася.

* * *

У судзе:

— Вадзіцель, у мінулым тыдні мелі вы чатыры дарожныя аварыі, у гэтым — дзве. Што можаце сказаць на сваё апраўданне?

— Што прагрэс усё-такі ёсць.

* * *

— Ці знаёмы вы з маёй жонкаю?

— Не, не меў гонару.

— Гонару?! Адразу відаць, што вы яе не ведаеце!

* * *

У лекара:

— Ваша жонка старэе і, на жаль, у яе прападае слых.

— Пан доктар, прашу вас, скажыце ёй гэта самі!

* * *

Лекар да хворага:

— Што вам дакучае?

— Не магу спаць. Штоночы варочаюся з аднаго на другі бок, устаю, зноў лягаю і кідаюся па ложку...

— У такім выпадку няма дзіву, што не можаце заснуць.

* * *

— Мая сястра ўжо два гады ў бальніцы.

— Вельмі мне прыкра... Лёгкія?

— Не.

— Сэрца?

— Таксама не.

— А што?

— Яна — медсястра.

* * *

У лекара:

— Пан Кавальскі, трэба забыць пра кабеткі, віно і спеў...

— Чэснае слова, пан доктар, што я не спяваў ужо два тыдні.

* * *

Муж пасылае жонцы ў курорт тэлеграму: „Не забывай, што ты замужняя".

Назаўтра атрымоўвае адказ: „Немагчыма, тэлеграма спазнілася".

## Ах, яйкі, яйкі!..

Мы ўжо прывыклі да дэфіцыту ў Беларусі. І сёння нават цяжка ўявіць, што раптам усё з'явіцца ў нашых крамах, а тады, мне здаецца, пачнецца сумнае жыццё. Бо пагоня за дэфіцытам — гэта і знаёмства з людзьмі, гэта і апошнія навіны, гэта і спорт, і, вядома ж, гумар. Таму я хачу спыніцца толькі на адным дэфіцыце — яйках. Так-так, звычайных курыных яйках. І не толькі...

Час талонаў ужо прайшоў, але ён быў. І кожны стараўся атаварыць адразу ўсе талоны. А бывала і не шанцавала. Падыходзіць неяк адзін мужчына да прадаўшчыцы і паказвае ёй талоны. А яна яму кажа: „Яйкі ў вас ужо выразаны". Мужчына здзівіўся: „Няўжо?"

А вось гэтай жанчыне проста пашанцавала. Поўны цэлафанавы мяшочак набрала. Усмешка на твары, настрой. А сяброўка, якая стаіць з ёю побач на аўтобусным прыпынку, не паспела атаварыцца. Яна, відаць, зайздросціць ёй. Тут раптам пад'язджае аўтобус і натоўп хлынуў у адчыненыя дзверы. Жанчыне „з яйкамі" ўдалося ўціснуцца ў пярэднія дзверы, а яе сяброўка ўвайшла ў сярэднія. Каб не падушыць яйкі, жанчына папрасіла дазволу ў вадзіцеля пакласці іх у кабіну. Вадзіцель дазволіў. Аўтобус рушыў. Раптам цішыню салона парушыў звонкі жаночы голас:

— Ганна, ідзі да мяне, тут свабадней.

Але Ганна гучна адказала:

— Не магу, я ў вадзіцеля яйкі трымаю.

Ах, яйкі, яйкі! Прыгоды з вамі ў апошні час і радасныя, і сумныя.

А гэты выпадак расказала мне нядаўна адна знаёмая. Яе муж са сваім сябрам вярнуліся з работы на гадзіну раней. Муж пайшоў па піва, а сябра залез у ванну памыцца (дома якраз не было гарачай вады). Дзверы зачынены на замок. Праз пэўны час і гаспадыня кватэры вяртаецца з работы дамоў, ключом адчыняе дзверы. Заходзіць, як звычайна, у кватэру, пераапранаецца і чуе, як у ваннай мыецца яе „муж". Вырашыла і яна зайсці ў ванну, каб памыць рукі. У гэты момант сябра яе мужа ўжо памыўся і ручніком пачаў выціраць галаву. Як ні ў чым не бывала, гаспадыня ўваходзіць у ванну і рукою чапае за чыстае і вымытае між ног багацце свайго „мужа". І радасна пытаецца: „Ну, што, мае яечкі, добра памыліся? Га?" Чужы мужчына ад нечаканага дотыку чуць зноў не зваліўся ў ванну. А жанчына глядзіць і вачам сваім не верыць: у ванне — не муж, а яго сябра... Што было далей — вы, шаноўныя чытачы, можаце толькі ўявіць. Добра, што праз хвіліну-другую з крамы вярнуўся муж гаспадыні кватэры з трохлітровым слоікам піва.

А неяк на днях пачуў я размову дзвюх маладых кабет. Адна слухала, а другая расказвала: „Учора першы раз абула свае новыя боты. Хоць і слізка было, але карцела прайсціся па магазінах. Іду, а побач нясе адзін мужчына поўную сумку яек. Ну, думаю, як паслізнуся і яго саб'ю — прапалі тады яйкі. Толькі так падумала, як грукнулася ягадзіцаю, а побач паваліўся мужчына. Хуценька ўстала і пытаюся: „Як вашы яйкі?" А ён адказвае: „З яйцамі ўсё нармальна, вось толькі калена крыху пабіў". Калі прыгледжуся, дык той мужчына з сумкаю яек як ішоў, так і пайшоў, а гэта быў зусім іншы"...

Ах, яйкі, яйкі! Не ведаю, як мужчын, а жанчын яны вельмі хвалююць і не даюць спакою. Але што ж зробіш — дэфіцыт!

**Сяргей Чыгрын**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Мне ўжо 28 гадоў, а я яшчэ незамужняя. Мама пачала непакоіцца, кажа, што я ўжо не выйду замуж, застануся адна, а што будзе, калі яны памруць... Я ведаю, што мамы, яны заўсёды думаюць пра адно: каб добра выдаць замуж дачку. А ці думаюць яны аб душы чалавека?..

Быў у мяне хлопец, які мне вельмі падабаўся. Я думала, што гэта каханне на ўсё жыццё, што ён адзіны і непаўторны, ды толькі з ім я змагу быць шчаслівая. Справа дайшла ўжо да вянца. Вясельныя сталы былі амаль накрытыя, калі ён уцёк ад мяне.

Сэрцайка, думаеш, што толькі ў фільме так здараецца? О, не! Цяжка апісаць, колькі сораму і горычы давялося мне праглынуць. Усе ж людзі гэта бачылі, а што я ім магла сказаць?! Што „не даспеў", што „яшчэ мае час", што „баіцца адказнасці", як ён пасля растлумачыў мне па тэлефону?..

Што дзеялася ў маёй душы, толькі Бог ведае. Я не магла глядзець не толькі на мужчын, але наогул на шчаслівых людзей, на парачкі, што цалаваліся на лаўках у парку. Чаго яны цешацца? — думалася мне. Бо я лічыла, што маё жыццё ўжо скончана.

А пасля я знайшла сабе сардэчную сяброўку, разам з якой мы праводзілі шмат часу. Усюды з ёю хадзілі, бывалі на розных імпрэзах. Яна таксама разышлася з хлопцам, і цяпер нікога не мела. Я крыху акрыяла, ажыла, і свет перастаў мне здавацца такім чорным. Навокал ізноў было поўна прыемных людзей, а таксама прыгожых хлопцаў, з якімі мы бывалі ў кампаніі.

Толькі праз год пасля нашага няўдалага „шлюбу" я „здрадзіла" свайму каханаму. Зрабіла гэта абы-як, без глыбокага пачуцця. Проста хлопец мне спадабаўся, была нагода сустрэцца, вось і ўсё. Пасля былі іншыя хлопцы, мужчыны. А тады ўжо ішло без разбору: на прыватцы, пасля дыскатэкі, на экскурсіі, у адпачынку.

Аднойчы сяброўка адклікала мяне з кампаніі і кажа: „Паводзь сябе больш прыстойна, бо ўжо ўсе гавораць, што ты ідзеш у пасцель з кожным без разбору!" Я абурылася, кажу, дай Божа ім усім такога шчасця ў жыцці. Мо тады мяне зразумеюць.

Так хацелася да некага прытуліцца, пачуць, як ён шэпча на вуха мілыя словы, паверыць яму, аддацца без рэшты. Але што зробіш, калі не было такога, як быў мой першы хлопец, такога, якога можна было б пакахаць ізноў цэлым сэрцам. І так выглядала маё „порханне", як сказала сяброўка, „з кветкі на кветку". Усё ж такі было весялей, і я не адчувала сябе такой самотнай.

Мне нават у галаву не прыходзіла, што мо я раблю кепска, не па-людску. Я не бачыла нічога неадпаведнага ў тым, што ішла ў пасцель не з кахання, а з гора. Секс стаў маім звычайным заняткам, як праца, як забава. Часамі знаёмыя хлопцы запрашалі мяне ў кампанію толькі дзеля таго, каб мець „дзяўчыну". Я ўжо не верыла, што нехта можа яшчэ трактаваць мяне сур'ёзна.

І раптам... я закахалася без памяці, усім сэрцам, так як першы раз. Хлопец быў „новы", нядаўна прыехаў у Беласток і яшчэ амаль нікога тут не ведаў. Я зразумела толькі цяпер, што яшчэ жыву, яшчэ патраплю рэагаваць на цяпло і ласку як кабета. Я не магу абысціся ніводнага дня без яго, хаджу, як ачмурэлая. Чакаю таго моманту, калі скончацца гадзіны працы і я ўжо буду з ім.

Гэтак працягваецца ўжо цэлы месяц. Я баюся штосьці гаварыць нават сяброўцы ці маме. Не магу вытрываць, як толькі падумаю, што ўсё ізноў можа разваліцца. Няхай адно хтосьці „добразычлівы" яму шапне на вуха тое-сёе. Ці ж будзе ён у мяне пытацца, што мяне прывяло ў такі стан?!. Адвернецца і ўсё.

Я штодзень трасуся, каб ніхто нічога не сапсаваў. Клянуся, я буду цудоўнай жонкай, калі толькі ён запрапануе мне шлюб. Я думаю, што трэба рабіць усё ў сакрэце. А тады... каму якая справа да нашага жыцця... А як ты думаеш, Сэрцайка?

**Анна**

Анна! Я разумею тваю горыч і твой страх. Аднак жа, калі ты ўчыняла так, як не павінна была ўчыняць, пэўна, не думала, што прыйдзе да цябе яшчэ раз сапраўднае каханне. А яно ўзяло і прыйшло, а ты баішся, што трэба будзе разлічыцца за свае паводзіны.

Бадай, ты маеш рацыю. Трэба ў надта невялікім кругу, скромна ўзяць шлюб, а таксама згуляць і вяселле. А пасля ўжо нікому, думаю, не прыйдзе ў галаву гаварыць яму пра глупствы.

Калі захочаш, сама яму раскажаш пасля, у хвіліну блізкасці. Пасля ўсяго таго, што ты перажыла, маеш шанц быць дасканалай жонкай.

**Сэрцайка**